

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 17 (1324) 26 КРАСАВІКА 2017 г.**

## Суботнік у Суботніках

Сябры Партыі БНФ ды Таварыства беларускай мовы з Ліды і Бярозаўкі зладзілі суботнік у вёсцы Суботнікі Іўеўскага раёна на сядзібе Зянона Пазьняка. Актывісты добраўпарадкавалі сад ля дома, дзе нарадзіўся і вырас беларускі палітык, выразалі старыя яблыні ды кустоў'е па перыметры пляца, падрэзалі ды пабялілі дрэвы, падраматавалі страху ў хляве, пабялілі фундамент хаты, памалявалі студню і крыж. Замест зрэзаных яблынь пасадзілі новае дрэўца. Сябры спадзяюцца што ўраджаем белага наліву з маладой яблынькі ля сваёй хаты пачастуецца ўжо і сам Зянон Станіслававіч.

Актывісты запэўнілі, што і надалей будуць даглядаць хату і надворак Зянона Пазьняка ў Суботніках. А пасля зробленай працы яны наведалі магілу маці Зянона Станіслававіча. Яна ўсяго некалькі дзён не дажыла да сваіх 90 гадоў і была пахаваная на парафіяльных могілках у роднай вёсцы Суботнікі. Да апошняга дня зямнога існавання Ганна Яфімаўна захавала вернасць роднай мове, любоў да беларускай зямлі і культуры. Добрымі словамі і дагэтуль яе ўзгадваюць аднавяскоўцы. Такія, як, напрыклад, сусед Фелікс Юзафавіч Балдаўскі:

- Мы з Яфімаўнай вельмі добра жылі як суседзі, жонка мая з ёй сябравала, парады давалі адна адной. Яна была адукаванай, начытанай жанчынай. Яна калісьці казала, што будзе жыць да 111 гадоў. Я запытаўся, адкуль яна гэта ўзяла, а тая адказала, што сон такі прысніла. Але не дажыла…

Актывісты ўшанавалі яе памяць на пятыя ўгодкі ад смерці малітваю "Ойча наш".









***Андрэй Панямонаў,***
*Беларускае Радыё Рацыя,*
*Ліда. Фота аўтара.*

## Напад на сядзібу ТБМ

На выходныя (22-23 красавіка) невядомыя зламыснікі разбілі фірмовую шыльду ТБМ на сцяне ля ўвахода ў офіс. Гэта сведчыць аб тым, што актывізацыя дзейнасці ТБМ у справе пашырэння беларускай мовы ва ўсіх сферах нашага жыцця не да спадобы розным шавіністам і манкуртам. Гэта не першая акцыя вандалаў, падчас якіх яны рабілі розныя напады на нашу сядзібу. У найбліжэйшы час кіраўніцтва ТБМ адновіць пашкоджаную шыльду. У органы праваапарадку мы вырашылі не звяртацца, бо наш папярэдні досвед сведчыць пра тое, што злачынцы не будуць адшуканыя і пакараныя.

***Старшыня ТБМ Алег Трусаў.***
***Першы намеснік старшыні Алена Анісім.***

ISSN 2073-7033




## Юбілей Галіны Дзягілевай



**Галіна Аляксееўна ДЗЯГІЛЕВА** (н. 23.4.1947, Менск), беларуская актрыса, рэжысёр. Скончыла Беларускі тэатр.-маст. інстытут (1968). Працавала ў Беларускім тэатры імя Я. Коласа, з 1986 - у Беларускай філармоніі. З 1989 заснавальнік і маст. кіраўнік-дырэктар Беларускага паэтычнага тэатра аднаго акцёра "Зьніч". Актыўны сябар ТБМ.

Сярод роляў: Лада ("Снежныя зімы" паводле І. Шамякіна), Святлана ("Таблетку пад язык" А. Макаёнка), Караліна ("Кастусь Каліноўскі" У. Караткевіча) і інш. Майстэрства імправізацыі, пераўвасаблення раскрылася ў выкананні монаспектакляў "Любіць!.." паводле вершаў А. Вярцінскага, "Мне сняцца сны аб Беларусі" паводле вершаў Я. Купалы, "Віленскія мроі" паводле ўспамінаў Ю. Вітан-Дубейкаўскай і інш. Рэжысёр-пастаноўшчык монаспектакляў "Маленькі анёлак" С. Кавалёва (1995), "У краіне светлай..." паводле вершаў М. Багдановіча (1997), першай нацыянальнай монаоперы "Адзінокі птах" А. Залётнева паводле твораў А. Міцкевіча, Я. Чачота, Р. Барадуліна (2001, і аўтар лібрэта).

***Энцыклапедыя***
***"Культура Беларусі".***

## Беларускаму фонду культуры - 30



30 гадоў таму, у красавіку 1987-га, у Беларусі з'явілася новая арганізацыя, сёння вядомая як грамадскае аб'яднанне "Беларускі фонд культуры". З некаторымі фактамі гісторыі арганізацыі цікаўныя могуць пазнаёміцца ў пастаяннай рубрыцы "Краязнаўчай газеты", прымеркаванай да юбілею,

А 18 красавіка ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі ў рамках святкавання юбілею адкрылася кніжна-ілюстрацыйная выстава "30 гадоў Беларускаму фонду культуры".



На ёй можна пабачыць кнігі, выдадзеныя цягам дзесяцігоддзяў фондам і рэгіянальнымі аддзяленнямі ГА, публікацыі супрацоўнікаў арганізацыі і пра БФК, а таксама ўзнагароды, якія аб'яднанне атрымала за захаванне і папулярызацыю культурнай спадчыны нашай краіны, за найлепшыя свае кнігі.

Пад час адкрыцця выступілі намеснік начальніка ўпраўлення Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь Алег Скарына, дырэктар НББ Раман Матульскі, старшыня Рады БФК Уладзімір Гілеп, намеснік старшыні БФК Анатоль Бутэвіч, сябар Выканкама БФК Уладзімір Адамушка.

Пабачыць выставу можна на 3-м паверсе НББ у галерэі "Лабірынт" да канца сёлетняга траўня.

***Краязнаўчая газета.***

На фота Наталлі КУПРЭВІЧ: сёняшнія супрацоўнікі БФК і момант адкрыцця выставы ў НББ.

№ 17 (1324) 26 КРАСАВІКА 2017 г. Наша слова

*Алена Анісім:*

## Нацыянальны ўніверсітэт усё роўна будзе…

- Згодна з маніторынгам, 21 універсітэт у Беларусі гатовы перайсці на беларускамоўнае навучанне, - кажа дэпутат Палаты прадстаўнікоў Алена Анісім.

Нагадаем, што адносна не так даўно на адной з прэс-канферэнцый Прэзідэнт Беларусі выказаўся пра Нацыянальны беларускамоўны ўніверсітэт прыкладна так - "будзем абмяркоўваць". І звярнуўся да дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Алены Анісім і Ігара Марзалюка з прапановай стаць суадносна прарэктарам і рэктарам.

**Радыё Рацыя:**

- Ці ёсць нейкія зрухі ў гэтым кірунку?

**Алена Анісім:**

- Міністэрства адукацыі на словах быццам бы падтрымала ідэю, але не больш за тое. Зразумела, што пакуль яны нічога не будуць рабіць па стварэнні Нацыянальнага ўніверсітэта. Што датычыцца нашага Грамадскага камітэта, то мы неўзабаве збярэмся і падсумуем тое, што ёсць. Нам людзі даюць звесткі і пра кадры, якія могуць працаваць ва ўніверсітэце, ёсць магчымасць зарэгістраваць установу. Пры гэтым многія вельмі зацікаўленыя ў ажыццяўленні ідэі, далучаюцца да працы новыя людзі з такім жа мысленнем і разуменнем таго, як усё павінна быць. Адным словам, пераходзім да практычнага рэчышча. Трэба вызначацца ўжо канкрэтна - у бліжэйшы месяц-два.

**Радыё Рацыя:**

- Наколькі сёння важнае для грамадства пытанне стварэння Нацыянальнага ўніверсітэта?

**Алена Анісім:**

- Надзвычай важнае! І пакуль яго не вырашым, яно будзе "правісаць". Нават калі дзяржава не захоча пераводзіць нейкі ўніверсітэт на беларускамоўнае навучанне, мы ўсё роўна будзем займацца гэтым пытаннем самі.

**Радыё Рацыя:**

- Ці ёсць з гэтай нагоды нейкая пазіцыя ў дзяржаўных чыноўнікаў? Альбо чакаюць, пакуль дадуць загад?

**Алена Анісім:**

- Адзіная пазіцыя была выказана ў Інстытуце мовазнаўства падчас Дня роднай мовы. Там было сказана, што, згодна з маніторынгам, 21 універсітэт у Беларусі гатовы перайсці на беларускамоўнае навучанне. Але далей слоў справа не ідзе, трэба ўвесь час штурхаць. Зрэшты, дзяржаўныя ВНУ пэўным чынам звязаны бюракратычнай сістэмай. А наша задача ўсё-такі, каб Нацыянальны ўніверсітэт быў новай формай, адпавядаў сучасным патрабаванням, каб там прысутнічала студэнцкая свабода.

***Кастусь Заблоцкі**,*
*Беларускае Радыё Рацыя.*

# Песня, якая стала народнай

Папулярнай беларускай песні "Бывайце здаровы, жывіце багата!" споўнілася 80 гадоў. Пра гэта нагадаў 8 красавіка ў сваёй новай праграме Зміцер Вайцюшкевіч. У канцэрце прагучалі творы на вершы Адама Русака аўтарства Ігара Лучанка, Ісака Любана, Юрыя Семянякі: "Мой край", "Дзе ты, зорка мая?", "Не шукай ты мяне", "Песня Марыны". Ужо не ў першы раз артыст звяртаецца да песеннай спадчыны легендарнага паэта і музыканта. У 2004 годзе да 100-годдзя Адама Русака выканавец падрыхтаваў цэлую праграму, у якой песня "Бывайце здаровы" упершыню прагучала па-італьянску.

Мы пагутарылі з дачкой паэта і музыканта Людмілай Адамаўнай Русак, былой выкладчыцай кафедры раманскіх моваў БДУ.



- Мае калегі-перакладчыкі пазнаёмілі мяне са Змітром Вайцюшкевічам ў 2004 годзе. Ён прыйшоў да нас, прагледзеў фотаздымкі і вершы, і быў вельмі ўзрушаны тым, што лёс і творчасць Адама Русака былі яму вельмі роднаснымі. Тады ён падрыхтаваў цэлы канцэрт, прысвечаны майму бацьку.

Тата нарадзіўся ў 1904 годзе ў вёсцы Пясочнае Капыльскага раёна на вуліцы Воўчы хвост, - працягвае Людміла Адамаўна. -Яго бацька Герасім Сямёнавіч часта граў на вяселлях і малы Адась з васьмі гадоў граў на скрыпачцы разам з ім. Русакоў называлі цыганамі за іх вясёлы нораў і за тое, што больш за ўсё на свеце яны любілі песні і танцы. Дзед Сямён, сапраўды, прывёз на радзіму пасля службы ў царскай арміі смуглявую малдаванку, з якой у іх нарадзілася чацвёра сыноў. У яе і пайшлі ўсе смуглявыя і музычна адораныя хлопцы. Чароўны голас скрыпкі запаў у татаву душу. Ён часта браў яе ў рукі і падбіраў полечкі і кадрылі, а потым разам са сваім бацькам граў на вяселлях і вечарынках. Гэты хатні аркестр і вызначыў яго незвычайныя здольнасці.

У 1924 годзе тата пешкі пайшоў у Менск, каб паступіць ў музычнае вучылішча. Спыніцца яму было недзе, і ён начаваў на лаве ў парку імя Горкага. У той жа год у вучылішча паступілі будучыя кампазітары Ю. Семяняка, Ул. Алоўнікаў.

Пра гісторыю стварэння самай вядомай песні Адама Русака напісаў у асобнай кніжачцы " Жыццё песні" Іван Цішчанка. Ён зазначае, што ў 1930 годзе пасля заканчэння Менскага дзяржаўнага музычнага тэхнікума Адам Русак быў залічаны ў Ленінградскую кансерваторыю ў клас прафесара М.М. Буяноўскага і адначасова прыняты салістам сімфанічнага аркестра Малога опернага тэатра. Ён палюбіў горад на Няве, але кожнае лета прыязджаў на радзіму. Ліст да матулі склаўся ў яго ў форме верша: "Бываце здаровы, жывіце багата…" Назаўтра ён дапісаў верш, які ператварыўся ў вельмі ўдалую песню. Першай яе заспявала ў 1936 годзе яго матуля Марыя Ігнатаўна на вядомы вясельны матыў.

Адам Русак падзяліўся ўдалым вершам з земляком, маладым паэтам Анатолем Астрэйкам, а той перадаў верш у Менску рэдактару "Літаратуры і мастацтва" І.Д. Гурскаму. Потым вучоны-філолаг з Масквы ўключыў тэкст у зборнік "Творчасць народаў СССР". Адчуваючы рытміку, напеўнасць верша, вобразнасць і трапнасць слова, якія ідуць ад вуснай народнай творчасці, вучоны засумняваўся ў аўтарстве і падпісаў тэкст так: *"Записано в колхозе "Красный пахарь" Копыльского района от Адама Русака."*

У 1937 годзе песня была надрукавана ў навагоднім нумары газеты "Праўда". З гэтага часу яе заўважылі кампазітары. Мастацкі кіраўнік хору імя Пятніцкага У. Захараў напісаў музыку на гэты тэкст. Песня ў выкананні калектыву загучала ў канцэртных залах, па радыё і патрапіла на грампласцінкі. Аднак сапраўдную славу вершу Адама Русака прынесла мелодыя Ісака Любана, якая і зрабіла "Бываце здаровы" беларускай музычнай класікай.

Пазней Рыгор Шырма адзначаў, што русакоўскі верш глыбока музычны, напеўны і лірычны, і кампазітар Любан улавіў менавіта ўнутраную мелодыю твора. *"Між яго вершаваных радкоў,*- сцвярджаў Г.І. Цітовіч, - *нябачна прысутнічаюць лініі нотнага стану."*

Для вялікай аўдыторыі песня ўпершыню прагучала 15 чэрвеня 1937 года ў выкананні Ларысы Александроўскай і засталася ў рэпертуары артысткі назаўжды. Калі яна спявала яе ў час гастрольных паездак у Германіі, Англіі і Францыі беларусы, рускія і ўкраінцы, што жылі ў эміграцыі, плакалі, бо ўспаміналі страчаную Радзіму. У гады Вялікай Айчыннай вайны Ларыса Пампееўна выконвала песню на фронце і ў глыбокім тыле. У 1974 годзе ў лісце да Адама Русака народны артыст СССР Леанід Уцёсаў пісаў: *"Вашу цудоўную песню я пачаў пець яшчэ ў 1938 годзе. Поспех быў велізарны. Як ні дзіўна, яна гучала не толькі ў мірныя дні, але і на фронце, дзе мы яе спявалі, выклікаючы ў байцоў добрую, радасную усмешку, падзяку за нястрыманы аптымізм гэтай песні."* Аднак Леанід Уцёсаў выконваў песню Адама Русака ў перакладзе на рускую мову Міхаіла Ісакоўскага. Савецкі паэт, стварыўшы пераклад, не звярнуў увагу на аўтарства А. Русака і прыпісаў тэкст сабе.



Сапраўднае аўтарства было пацверджана тады, калі ў 1940 годзе Саюз беларускіх пісьменнікаў звярнуўся да М. Ісакоўскага з лістом, у якім засведчыў пра беларускага аўтара. У адказе на ліст паэт выбачаўся за памылку, але ў 1949 годзе ў Расіі ён зноў выдаў тэкст песні з нотамі ў асобнай брашуры пад сваім прозвішчам.

За свае жыццё Адам Русак напісаў шмат душэўных песень. Натхняла яго на іх яго жонка Марыя Яўгенаўна.

- Тата з мамай пазнаёміліся ў Ленінградзе, - успамінае Людміла Адамаўна. - Яна была родам з Карэліі і вучылася ўлітаратурным інстытуце. Аднойчы мама пайшла на Новы год у малы Ленінградскі оперны тэатр. Там яны з татам і пазнаёміліся. Песню "Толькі з табою" тата прысвяціў менавіта маме. Жывучы ўжо ў Менску яна старалася вывучыць беларускую мову. Мама захоўвала ўсе татавы рукапісы.

*Толькі з табою*
*мне хочацца быць,*
*Толькі з табою,*
*Радасць і шчасце*
*з табою дзяліць*
*Толькі з табою.*

- Майму тату па вялікаму рахунку не шмат чаго было трэба ў жыцці акрамя песень, - успамінае спадарыня Людміла. - Да Ігара Міхайлавіча Лучанка як да старшыні Саюза беларускіх кампазітараў многія звярталіся з просьбамі: "Машына, кватэра, гараж". А той адказваў: "А дзе песні?". Бацька жыў менавіта песнямі, а кватэра ў нас была яшчэ з пасляваенных часоў. У двух пакоях жыла наша сям'я, а астатнія былі аддадзеныя пад камуналку. Мама, скончыўшы курсы кройкі і шыцця, абшывала ўсіх суседзяў і знаёмых. Жонкі паэтаў і пісьменнікаў ішлі да яе. Яна шыла такія выдатныя строі, паліто і спадніцы, што ўсе думалі, што дзеці Русакоў апранаюцца за мяжой. Аднойчы мама пашыла мне аксамітны строй з чырвонымі гузікамі, які немагчыма было адрозніць ад пакупнога.

Тата быў сябрам Саюза беларускіх пісьменнікаў і Саюза пісьменнікаў СССР. Яго песні часта гучалі па радыё і тады ён не стрымліваў слёз. У 50-60 гады імя яго было на слыху. Ён карыстаўся усенароднай любоўю і пашанай. Тату было ўласціва пачуццё гумару. Ён казаў: "Я лепшы паэт сярод музыкантаў (маючы на ўвазе свой аркестр) і лепшы музыкант сярод паэтаў." З 1949 года ён працаваў салістам аркестра Белдзяржфілармоніі. Бацька выдаў зборнікі паэзіі "Песні і вершы", "Пад голас баяна", "Толькі з табою", "Звонкія крыніцы", "Закрасуйся, Нёман", "Засцілайце сталы", "Песні радасці" і іншыя.

Калі Зміцер Вайцюшкевіч гартаў у нас дома кніжачку "Жыццё песні", ён убачыў фотаздымак бацькавага першага вясковага аркестра і адчуў, што яго лёс як музыкі вельмі блізкі да лёсу Адама Русака. Ён быў вельмі ўсхваляваны і з тых часоў пастаянна ў сваіх праграмах выконвае песню "Бывайце здаровы, жывіце багата!" на розных мовах.

Зараз гэтую песню спяваюць у Літве, Казахстане, Расіі, на Украіне. Акрамя таго, яна будзе перакладзена на кітайскую мову і выдадзена ў Кітаі ў зборніку нашых песень.



Мы спяваем яе на кожным сямейным свяце разам з сястрой Наталляй, з сынам Юргесам і дачкой Крысцінай, - паведаміла Людміла Адамаўна Русак.

***Эла Дзвінская.***

Фота "Будзьма" і з архіва сям'і Русакоў:

1. Людміла Русак і З. Вайцюшкевіч;
2. Адам Русак;
3. Бацька і маці Адама Русака;
4. Адам Русак і Ісак Любан;
5. Марыя Яўгенаўна, жонка А. Русака.

(Працяг. Пачатак у папяр. нумары.)

Сымон Барыс

# Этнаграфічны тлумачальны слоўнік

**Гара, гарышча** (чердак) - прастора на хаце паміж столлю і страхой.

**Гарбата** (чай) - чай з траў.

**Гарбар** (кожевник) - майстар па вырабу і апрацоўцы шкуры.

**Гарбарня** (кожевня) - майстэрня па вырабу шкур.

**Гарбузянка** (тыквяная каша) - каша з гарбуза.

**Гарбузікі** (семена тыквы) - семачкі гарбуза.

**Гарбыль, гарбіна** - дошка, у якой адзін бок выпуклы, яна атрымоўваецца пры распілоўцы круглага бярвяна.

**Гарлач** (кувшин) - збанок з высокім і вузкім горлам.

**Гармонік, гармошка** (гармонь) - 1) клавішна-пнеўматычны музычны інструмент; 2) губны гармонік.

**Гарнец** (гарнец) - 1) адзінка вымярэння сыпучых рэчываў у сістэме мер ВКЛ (роўная 3.28 л); 2) пасудзіна такой ёмкасці.

**Гаплюк, гаплік** (крючок) - аплік, кручок.

**Гаптаванне** - гафтаванне, выраб мярэжкі.

**Гарох пражаны** - страва з гароху (замочаны гарох спражаны на патэльні).

**Гарохаўка** (гороховый суп) - гарохавы суп.

**Гарохавішча** (гороховище) - поле, з якога сабралі гарох.

**Гарохавіны, гарохавінне** (гороховая солома) - каліўе абмалочанага гароху.

**Гарсэт, кабат, шнуроўка, станік** (корсет) - нагруднае жаночае адзенне без рукавоў.

**Гарсэт** - шырокі пругкі пояс, які носяць пад сукенкай для сцягвання таліі і надання стройнасці фігуры.

**Гартавальня** (кольильня) - месца, дзе гартуюць мятал.

**Гарэшнік, арэшнік** (орешник) - кусты, на якім растуць гарэхі (арэхі).

**Гаршчок** (горшок) - круглая выпуклая гліняная або чыгунная пасудзіна са звужаным дном для гатавання стравы.

**Гаспадар** (государь, хозяин) - 1) вялікі князь; 2) уладальнік сядзібы.

**Гасцінец** (дорога) - 1) вялікая брукаваная, абсаджаная дрэвамі дарога, па якой ехалі госці (купцы); 2) ласунак для дзяцей з дарогі, падарунак.

**Гафт** - 1) вышыўка каштоўнымі ніткамі і каштоўнымі матэрыяламі; 2) ажурныя швы.

**Гаць** (гать) - 1) тое, што і грэбля; 2) застава на рацэ.

**Гбала** - прыстасаванне для гнуцця дуг, палазоў, абадоў для колаў.

**Гвалты, згоны** (сгоны) - прымусовыя згоны працаздольных сялян на работу ў маёнтку ў час касьбы на сенажацях і на панскім полі ў час жніва.

**Гестка** (гестка) - кавалак тканіны (на плечы), да якой прышываецца асноўны матэрыял кашулі.

**Гілярка, чайка** (лодка) - лодка ( в. Парэ Лосіцкага сельсавета Пінскага раёна).

**Гіль** (снегирь) - снягір.

**Гладыш, крынка** (кувшин без ручки) - збан без ручкі.

**Гладзь** (гладь) - спосаб вышывання шырокімі шчыльнымі шыўкамі.

**Глазура** (глазурь) - 1) шклопадобны сплаў, якім пакрываюць керамічныя вырабы; паліва; 2) густы цукровы сіроп, у якім вараць садавіну і пакрываюць мучныя вырабы.

**Гляк** (горшок с узкім горлышком) - нізкая гліняная пасудзіна з выпуклымі бакамі і вузкім горлам.

**Гміна** (волость) - сельская тэрытарыяльна-адміністрацыйная адзінка ў павеце ў часы польскай і нацысцкай акупацыі Беларусі.

**Гон, стая** - адлегласць, пройдзеная аратаем з аднаго канца поля ў другі.

**Госція** (ад лац. ахвяра) - аплатка, маленькі сухарык з прэснага пшанічнага цеста, які замяніў у абрадзе прычасця хлеб у каталіцкіх і пратэстанцкіх цэрквах.

**Грабло** - грабелькі да касы (в. Сыраежка Бераставіцкага раёна).

**Градка, гратаўка, заложнік** (полка) - палічка для талерак і місак.

**Градавы хлеб, градоўка** - нізкага гатунку хлеб з дабаўкамі рознай мукі і мяккіны.

**Грамафон** (грамофон) - музычны апарат з рупарам для ўзнаўлення гукаў, запісаных на спецыяльную пласцінку. Папярэднік патэфона.

**Грамніцы, стрэчанне** (сретение) - свята 2(15) лютага, калі ў царкве асвячаюцца свечкі.

**Грамаўніца** - багіня лета, жонка Перуна.

**Гранаты** (бусы) - пацеркі, якія мелі грані.

**Грош** (грош) - 1) срэбная манета ў ВКЛ масай 2,57 г.; 2) адна трыццатая частка злотага ў ВКЛ; 3) сотая частка злотага ў Другой Рэчы Паспалітай.

**Грамада** (община) - сельскае пазамельнае аб'яднанне жыхароў вёскі.

**Гродскі (замкавы) суд** - павятовы суд для простых людзей і шляхты ў ВКЛ.

**Грывеннік** (гривенник) - срэбная манета ў Расійскай імперыі.

**Грыжанка, бручка** (суп из брюквы) - суп зварaны з бручкі.

**Грыўня** (гривня) - 1) даўняя адзінка вагі каштоўных металаў (прыблізна 195,5 г); 2) грашовая адзінка ў ВКЛ вартасцю 48 грошаў.

**Грыфель** (грифель) - палачка з апсіднага сланцу для пісання па грыфельнай дошцы.

**Грэбля** (гать) - насціл з бярвення ці галля на балоце для праезду.

**Грэбень** (гребень) - прылада для расчэсвання льноваласна.

**Груба, грубка, стаяк** (стояк) - печка ў святліцы.

**Губка** (стена) - умоўная адзінка вымярэння асновы, адлегласць паміж першым і другім шэрагаў калкоў (на даўжыню сцяны).

**Губерня** (губерния) - асноўная адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка з 18 ст. у Расіі і ў СССР да 1930 г.

**Гудзёлка** (гудящая игрушка) - дзіцячая цацка з маленькай косточкі з шнурком.

**Гуж** (гуж) - пятля ў хамуце.

**Гуканне вясны** - старажытны абрад сустрэчы вясны, язычніцае свята, якое ладзілася на Дабравешчанне або на Аўдакею.

**"Гула"** - народная гульня ў дзве каманды. Перамагае тая каманда, якая хутчэй перакіне гулу (камень ці кола) за ўмоўную мяжу.

**Гумно, ток** (гумно, рига) - халоднае сельскагаспадарчае памяшканне, у якім ляжала неабмалочанае збожжа.

**Гумнішча, прыгуменне** (гумнище) - падворак каля гумна.

**Гунька** (покрывало) - зрэбная посцілка, пакрывала.

**Гуслі** (гусли) - шматструнны шчыпковы музычны інструмент.

**Гусляр** (гусляр) - той, хто іграе на гуслях.

**"Гуські"** - народная гульня, удзельнікі якой палкамі заганяюць гусёк (цурку) ў сваё "гняздо".

**Гута** (гута) - выплаўка шкла з пяску або выплаўка жалеза з балотнай руды.

**Гушкалка** (качели) - арэлі.

**Гэблік** (рубанок) - невялікі гэбель.

### Д, Дж, Дз

**Дайніца, даёнка** (падойник) - бандарная пасудзіна з ручкай, у якую гаспадыня доіць карову.

**Дажынкі, абжынкі** (дожинки) - урачыстасць, якая звязана з заканчэннем жытняга жніва.

**Дамавік, хатнік** (домовой) - міфілагічная істота, дух, які нібыта жыве ў хаце.

**Дакляравацць** (обещать) - паабяцаць аб выкананні.

**Дашчанка, дашчанік** - 1) памяшканне будынка з дошак; 2) (дощаник) пласкадонная лодка з дошак або невялікі рачны карабель.

**Дарожка** (дорожка) - 1) сцежка; 2) ходнік; 3) рыбалоўная прылада ў выглядзе доўгага шнура з кручком і прынадай на канцы; 4) жалабок, разорка.

**Двайнікі** (двойник) - гляніныя гаршкі, замацаваныя разам.

**Дваайняты, блізняты, блізнюкі** (близнецы) - двое дзяцей, народжаных у адзін дзень.

**Дварэцкі** (дворецкий) - у царскай Расіі старшы слуга, які загадваў хатняй гаспадаркай і кіраваў прыслугай у панскім доме.

**Дварышча** (дворище) - 1) падворак каля хаты; 2) месца, дзе была сяліба.

**Дворня** (дворня) - прыслуга ў панскім доме ў час прыгону.

**Дворышча** (дворище) - сельская грамада ў мінулым.

**Дзвід** (журавль) - журавель каля студні.

**Дзевятнік** (девятник) - свята, якое адзначаецца ў чацвер на дзевятым тыдні пасля Вялікадня.

**Дзевер** (деверь) - мужавы браты для яго жонкі.

**Дзед** (дед) - 1) бацькаў бацька для ўнука; 2) (лучник) калодка з ўсталенай у яе палкай, куды замацоўваюць лучыну для асвятлення хаты.

**Дзедаўшчына** (дедина) - спадчына маёмасці пасля дзеда (пераважна зямлі).

**Дзедзіч** (наследник дедовского имения) - спадчыннік маёнтка па лініі дзеда.

**Дзераўяшкі** (обувь с деревянной подошвой) - драўляны абутак, у якім верх скураны, а падэшва драўляная (альховая, асінавая, ліпавая).

**Дзеравянок** (деревяшка) - нарыхтоўка для драўлянага абутку - дзераўяшкі (в. Кладнікі Жылеўскага сельсавета Іўеўскага раёна).

**Дзераўнічы** (охранник леса) - службовая асоба, якая наглядала за ўчасткамі вялікакняскага лесу.

**Дзесяціна** (десятина) - памер зямлі, які адпавядаў 1,09 га.

**Дзесяцкі** (десяцкий ) - у дарэвалюцыйнай вёсцы выбарная асоба з сялян ад 10 двароў вёскі, якая выконвала абавязкі паліцэйскага.

**Дзёгаць, каланіца** (дёготь) - цёмная густая смалістая вадкасць (мазь), якая здабывалася шляхам сухой перагонкі цвёрдага паліва (драўніны, торфу, каменнага вугалю) на смалярні і прымянялася для змазкі восяў у колах калёсаў.

**Дзявочнік, суборная субота** (девичник) - вечарынка ў хаце нявесты напярэдадні вяселля.

**Дзяга** (ремень) - папруга, скураны пояс, рамень.

**Дзягцяр** (дегтярь) - рамеснік па вырабе дзёгцю.

**Дзядзінец** - 1) (большой двор) прасторны шырокі двор; 2) (паперть) ганак перад уваходам у царкву.

**Дзядзькаванне** - звычай аддаваць дзяцей шляхты ў сялянскую сям'ю на выхаванне.

**Дзяды** (поминки) - дзень памінання продкаў.

**Дзядзіна** (тётка) - цётка, жонка дзядзькі для яго пляменніка.

**Дзядкі** (сохи) - каротнія слупкі з развілінай, якія падтрымлівалі стрэхі клецяў і гумнаў.

**Дзяжа, хлебніца** (квашня) - невялікая бочка для закваскі хлебнага цеста.

**Дзяннік** (скотский двор) - частка двара для жывёлы.

**Дзяншчык** (денщик) - салдат, які служыць для паслуг афіцэру.

**Дзяржаўца** (державец) - часовы ўладанік і аканом дзяржаўнага маёнтка.

**Дзяружка, дзяруга, радзюшка** (дерюжка) - посцілка з грубай льняной пражы, вытканая ў 4 ніты і сшытая ў дзве полкі.

**Дзяцюк, юнак** (кавалер) - дарослы хлопец.

**Доўбня, даўбня** (балда, бойница - вялікая палка з патаўшчэннем на канцы для ўбівання чаго-небудзь.

**Драбіны, драбінкі** (переплёт, решётка) - лесачкі, якія ўтвараюць кузаў на калёсах.

**Драбіна, драбіны** (лестница) - драўляная прыстаўная лесвіца.

**Дранік, драчонік** (оладья из картофеля) - блін з дранай бульбы.

**Дранка, драніца** (дранка, щепа) - нашчапаныя тонкія дошчачкі для крыцця страхі або абівання сцен пад тынкоўку; 2) кожная з такіх дошчачак.

**Дратва** (дратва) - тоўстая навошчаная або прасмаленая нітка для пашыву абутку і іншых скураных вырабаў.

**Драка, драчка** (царапка, тёрка) - цяслярская прылада працы, двухрожкай якой абазначаюць на бярвенні лініі для для высякання па іх паза.

**Драч** (резчик щепы) - дрэваапрацоўчы інструмент для вырабу дахавых матэрыялаў - дранкі і іншага.

**Драпач, драпак** (культиватор) - прылада для рыхлення глебы, якая нагадвае барану, але жалезныя зубы выгнуты ўнізе накшталт лапак.

**Дружка** - 1) старшы сват на вяселлі (Вілейскі раён); 2) шаферка ў нявесты (Ганцавіцкі раён).

**Дружок** - вясельны чын з бліжэйшай світы жаніха.

**Дружына** (дружина) - удзельнікі вяселля з боку маладога або маладой. У вяселлі былі дзве дружыны.

**Друкі, друччкі** (кастрома) - тое, што і пераплот, часовае прыстасаванне з сукаватых жэрдак, на якіх сушылі бульбоўнік, гарохавіны.

**Дрывотня, дрывотнік** (дровяник) - 1) месца, дзе захоўваліся дровы; 2) павець для дроў.

**Дрыль** (дрель) - інструмент для свідравання адтулін.

**Дрыліх** (юбка) - спадніца пашытая тканіны, сатканай з льняных і суконных нітак (белых і афарбаваных упераменжку).

**Дуб, дубоўка, даўбянка** (дубовка) - выдзеўбаная дубовая лодка.

**Дубіцель** (дубитель) - рэчыва для дублення скур і аўчын.

**Дуга** (дуга) - састаўная частка хамутова-аглобельнай вупражы для запрагання каня.

**Дуда** (волынка) - музычны духавы інструмент, які складаецца з драўлянай трубачкі і скуранага мяшка.

**Дудар** (волынщик) - той, хто іграе на дудзе.

**"Дударыкі", "Дудачка"** - традыцыйны танец, які атрымаў назву ад музычнага інструмента дудачкі, пад ігру якога і выконвалі гэты танец.

**Дудка, дудачка** (свирель) - народны духавы музычны інструмент - гэта трубка (часцей драўляная) даўжынёй 20-50 см за адтулінамі.

**Дукат** (дукат) - еўрапейская залатая манета XIII - XIX стст. масаю 3,49 г.

**Дыван** (ковёр) - узорчатая саматканая посцілка, якая вывешваецца для ўпрыгожвання сцяны ў хаце.

**Дыля** (толстая доска) - бервяно распіленае ўздоўж папалам або на 4 часткі.

**Дым** (дым) - падатковая адзінка ў ВКЛ. Падатак з аднаго сялянскага двара.

**Дымакур, дымар** (дымокур) - пчалярная прылада для падкурвання пчол дымам у вуллі.

**Дымка** (дымка) - чатырохнітовая тканіна.

**Дымнік** (дымник) - адтуліна для выхаду дыму ў курнай хаце.

**Дышаль** (дышло) - жэрдка, якая злучае перадок калёс з заднім ходам.

### Е, Ё

**Ез** (учуг) - загарадка з калоў і галля для затрымання рыбы ў рэчцы.

**Елачка, рагацінка, гільца** (ёлочка) - вясельны атрыбут на вяселлі, які сімвалізаваў маладую і яе яднанне з маладым.

**Еўня, ёўня** (осеть) - аднапавярховае абаграванае памяшканне для сушкі снапоў збожжавых культур, канапель і лёну перад малацьбой. Зрубная невысокая сушня са зрубнай столлю.

**Ёўнік** (осетник) - сядзібны дух, які жыве ў ёўні.

### Ж

**Жабрак** (нищий, попрошайка) - той , хто жыве з міласціны і ахвяраванняў.

**Жак** (вентерь, вёрша) - сеткавы мяшок на абручах для лоўлі рыбы.

**Жакет, жакетка** (жакет, жакетка) - 1) кароткая жаночая верхняя адзежына; 2) верхняя кароткая мужчынская адзенне, пінжак.

**Жалейка, дудка, сапёлка, свісцёлка, чаротка** (жалейка, свирель) - музычны духавы інструмен, які ўяляе сабой трубку з адтулінамі.

**Жалетка** (жилетка) - мужчынская або жаночая безрукаўка, якую апраналі паверх сарочкі.

**Жалязка** (утюг) - чыгунны прас для разгладжвання ткання.

**Жаніцьба коміна, жаніцьба светача** - асенні ўрачысты абрад, звязаны з першым распальваннем і ўшанаваннем светача (лучніка). Адбываўся на прысвятак Сымона (14 верасня).

**Жар** (жар) - яркія гарачыя вугалі без полымя.

**Жарства** (дресва) - дробныя каменьчыкі.

**Жарноўня** (мельница) - памяшканне ля свірна, у якім стаяць жорны і ступа.

**Жаўтуха** (желтуха) - заразная хвароба, якая выклікае пажаўценне скуры чалавека, гіпатыт.

(Працяг у наст. нумары.)

*Да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання*

# Узрасло буйным коласам зерне Скарыны

Бягучы 2017 год у культурным жыцці праходзіць пад знакам 500-годдзя беларускага кнігадрукавання. Менавіта 500 гадоў назад, а дакладней - 6 жніўня 1517 года, у Празе, адным з найбуйнейшых на той час цэнтраў кнігадрукавання, беларускім асветнікам, вучоным, гуманістам Францішкам Скарынам была выдадзена першая ва ўсходніх славян друкаваная кніга - "Псалтыр" - на старажытнабеларускай мове. Яна стала першай з дваццаці трох выдадзеных Скарынам кніг Бібліі. Выданне гэтых друкаваных кніг Бібліі паспрыяла пашырэнню кнігадрукавання, ідэй гуманізму і асветніцтва ва Ўсходняй Еўропе.



Да 500-годдзя той знакавай падзеі была прымеркавана навуковая канферэнцыя "Пятыя лідскія чытанні", якая адбылася 19 красавіка ў Лідскай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы. На мерапрыемства былі запрошаны работнікі бібліятэк, мясцовыя краязнаўцы, а таксама краязнаўцы са Слоніма і Дзятлава. Падчас работы навуковай канферэнцыі ў канферэнц-зале бібліятэкі дзейнічала кніжная выстава "Узрасло буйным коласам зерне Скарыны", прысвечаная гісторыі друкаванай кнігі на Беларусі.

Спачатку прысутным быў прадэманстраваны кароткаметражны відэафільм пра Францішка Скарыну. Затым з дакладамі выступалі ўдзельнікі канферэнцыі: краязнаўцы, настаўнікі гісторыі, бібліятэчныя і музейныя работнікі і іншыя.





Так, з асвятленнем жыцця і дзейнасці беларускага першадрукара ў школьных падручніках азнаёміла настаўніца гісторыі сярэдняй школы № 17 Тарэза Капачэль; бібліяграфічны агляд кніг аб Францішку Скарыну правяла галоўны бібліёграф раённай бібліятэкі Галіна Курбыка; пра аднаго з паслядоўнікаў Скарыны, друкара Яна Карцана (які, праўдападобна, родам з Лідчыны), расказала настаўніца гісторыі Мінойтаўскай СШ Алена Мілевіч; праблему перакладу твораў старажытнабеларускай літаратуры на сучасную беларускую мову закрануў у сваім выступленні святар Свята-Георгіеўскага храма-помніка айцец Уладзімір Камінскі; па тэме "Царкоўныя кнігі Лідчыны XVIII стагоддзя" выступіў краязнавец Леанід Лаўрэш.

Краязнавец з аграгарадка Дворышча Віктар Кудла азнаёміў прысутных з некаторымі выдадзенымі ў канцы XIX стагоддзя кнігамі, якія захоўваюцца ў яго сям'і як рэліквіі (продкі Віктара Іванавіча прывезлі гэтыя кнігі з глыбіні Расіі, куды трапілі як бежанцы ў час Першай сусветнай вайны), - гэта і Евангелле, у якім больш за 900 старонак, і "Беседы о земле и тварях, в ней живущих", і кніга па гісторыі развіцця сельскай гаспадаркі "Куль хлеба и его происхождение", і кніга па медыцыне "Новое в естественном лечении". Яшчэ з адной старой кнігай - паэмай Якуба Коласа "Сымон-музыка" 1928 года выдання - пазнаёміў краязнавец з вёскі Сялец Мікалай Дзікевіч (гэта была першая прачытаная Мікалаем Мікалаевічам кніга на беларускай мове, зараз яна захоўваецца ў літаратурным аддзеле Лідскага гістарычна-мастацкага музея).






Агляд калекцыі друкаваных выданняў, якія захоўваюцца ў фондах згаданага музея, правяла галоўны захавальнік фондаў музея Наталля Хацяновіч. З дзейнасцю ДАУПП "Лідская друкарня" азнаёміў прысутных яе дырэктар Мікалай Пякарскі, з дзейнасцю выдавецкага дома Лідскай гарадской арганізацыі ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" - паэт, журналіст, краязнавец Станіслаў Суднік. На мерапрыемства ў якасці дакладчыка быў запрошаны і госць са Слоніма - паэт, журналіст, краязнавец Сяргей Чыгрын. Ён выступіў з дакладам па гісторыі кнігадрукавання на Слонімшчыне.

Тэксты ўсіх сваіх дакладаў выступоўцы аддалі раённай бібліятэцы. З гэтых тэкстаў работнікамі бібліятэкі пазней будзе складзены зборнік па тэме "500 год беларускаму кнігадрукаванню".

*Аляксандр МАЦУЛЕВІЧ.*

# Памёр Анатоль Мяльгуй

Дэмакратычная, культурная Беларусь панесла вялікую страту. На 60-м годзе жыцця 22 красавіка пасля цяжкай працяглай хваробы памёр яе выдатны сын і яе гарачы патрыёт - Анатоль Мітрафанавіч Мяльгуй - выдатны музычны крытык, адзін з лепшых недзяржаўных майстроў пяра - журналіст высокага класу.

Будучы ў нялепшым фізічным стане, ён да апошняга дня, да адыходу ў іншы свет быў, як кажуць, на перадавой у змаганні за беларушчыну. Пастаянны і сталы аўтар "Нашага слова", "Краязнаўчай газеты", "Новага Часу", "Туризма и отдыха", "Беларуса" (Нью-Ёрк) і іншых выданняў.

Анатоль Мітрафанавіч з дэмакратычных і патрыятычных пазіцый асвятляў самыя розныя грамадзянскія і культурніцкія падзеі, акцыі, імпрэзы і рабіў гэта на вялікім гарцы і рахунку. Яму былі падуладны любыя тэмы жыцця яго любімай Беларусі. Ён быў шырока адукаванай асобай. Таму з-пад яго пяра заўсёды выходзілі бліскучыя матэрыялы (кнігі ў суаўтарстве з Вітаўтам Мартыненкам, інфармацыі, рэцэнзіі, паведамленні і інш., вядома, з яго фота) і прытым заўсёды аператыўна. Як чалавек Анатоль Мітрафанавіч быў вельмі дэмакратычны, таварыскі, добразычлівы, сціплы і спагадлівы. Як сябар клуба "Спадчына" (клуб у свой час стварыў светлай памяці незабыўны і незаменны Анатоль Белы) ён слугаваў яму з поўнай аддачай.



Цяжка хворы, Анатоль Мітрафанавіч ніколі не скардзіўся на здароўе. Самымі дзейснымі лекамі для яго, аптымістам, былі клопат, руплівасць і праца на карысць Бацькаўшчыны.

Смуткуем, падзяляем гора з роднымі і блізкімі дарагога нам Анатоля Мітрафанавіча Мяльгуя.

Светлая аб ім памяць.

*Яўген Гучок, Ілля Копыл, Уладзімір Раманоўскі, Ала Белая, Леанід Лыч, Мікола Лавіцкі, Аляксей Будзянок, Мікола Савіцкі, Надзея Сармант, Сяргей Сармант, Пятро Русаў, Ян Антанюк, Алесь Цыркуноў, Ігар Курыцын, Мікола Несцярэўскі, Уладзімір Лінскі.*

# Выйшла "Гісторыя Фінляндыі" па-беларуску

Пабачыла свет "Гісторыя Фінляндыі" аўтарства Хенрыка Мейнандэра. Пераклад са шведскай мовы ажыццёўлены Вольгай Рызмаковай. Кніга выдадзена пры фінансавай падтрымцы Міністэрства замежных спраў Фінляндыі і FILI.




За апошнія два дзесяцігоддзі было апублікавана некалькі важных даследаванняў па фінскай гісторыі. Сярод фінскіх гісторыкаў найбольш значныя манаграфіі - як паводле зместу, так і паводле памеру - былі напісаныя Віранкоскі і Вахталам.

"Гісторыя Фінляндыі" Хенрыка Мейнандэра, аднак, істотна адрозніваецца ад гэтых прац. значна карацейшая за кнігі Віранкоскі ці Вахталы, бо аўтар не збіраўся даць вычарпальнае апісанне гістарычнага развіцця Фінляндыі. Аўтар, хутчэй, імкнуўся паказаць перспектывы і агульныя тэндэнцыі, а таксама вынікі доўгіх ланцуговых рэакцый па канкрэтных аспектах гісторыі і грамадства Фінляндыі...

*Наш кар.*

# Заняткі "Мова дзяцей" ад Гомельскага ТБМ крочаць па Беларусі

Другі год у Гомелі актыўна праходзіць гуртоК для маленькіх беларусаў. У мінулыя выхадныя адбыліся выязныя заняткі ў Светлагорску.

Удзельнікі знаёміліся, гулялі ў гульні, танчылі, вывучалі новыя словы, спявалі, атрымалі падарункі з эмблемай арганізацыі - усё гэта адбывалася на беларускай мове. Вядуць заняткі Алеся Аўласевіч і Яўген Якавенка.





- Заняткі растуць і не губляюць сваёй папулярнасці. Мы развіваем творчасць, шукаем адказы на сур'ёзныя пытанні, рэалізуем дзіцячае права атрымліваць адукацыю на беларускай мове, - дзеліцца старшыня Гомельскага ТБМ Алеся Аўласевіч.

Заняткі адбываюцца штосуботы, налічваюць каля 30 актыўных удзельнікаў. Узроставыя групы заняткаў 3-6, 6-7, 8-12 год.

*Наш кар.*





*Навіны Германіі*

# Беларуска распавядае з Германіі

25-гадовая Таццяна Банцэвіч распавяла intex-press.by пра сваё жыццё ў горадзе Кіль, пра тое, як немцы здаюць жыллё і якая тыпова нямецкая рыса з'явілася ў яе за гэты час.

**Пра пераезд і працу:**

- У дзяцінстве я часта наведвала Германію. Наша сям'я мела зносіны з нямецкай сям'ёй, і аднойчы немцы прапанавалі знайсці мне працу няні ў Германіі. Мая мама была не супраць, і праз паўгода ў мяне на руках былі ўсе неабходныя дакументы. Я заўсёды марыла пераехаць у іншую краіну, і прапусціць такую прапанову было б памылкай. Нават тое, што я на той момант вучылася ў БарДУ, мяне не спыніла.



Працу мне прапанавалі ў нямецкай сям'і, дзе было ўсяго адно дзіця - 7-гадовая дзяўчынка. Сям'я мне спадабалася, ніякіх цяжкасцяў з дзіцем не ўзнікала. Дзяўчынка лічыла мяне часткай сям'і і нават звала старэйшай сястрой. Паралельна я паступіла ва ўніверсітэт на курсы нямецкай мовы для замежных студэнтаў.

Калі кантракт з сям'ёй скончыўся, я ўладкавалася працаваць у піцэрыю. Адпрацавала два тыдні і працаўладкавалася ў фінансавую кампанію, дзе ў мае абавязкі ўваходзіла праца з дакументацыяй і лістамі. Пазней уладкавалася працаваць афіцыянткай у яхт-клуб, дзе працягваю працаваць дагэтуль.

**Пра моўны бар'ер і вучобу:**

- Паступіла ва ўніверсітэт горада Кіль. Абрала сацыялогію. Калі паспяхова скончу ўніверсітэт, змагу працаваць сацыяльным працаўніком. А ведаючы нямецкую, я змагу даваць урокі нямецкай мовы прыезджым. Цяпер такія працаўнікі тут на вагу золата.

Каб працаваць у Германіі, веды нямецкай абавязковыя. Пакуль я не валодаю нямецкай мовай у дасканаласці, таму ва ўніверсітэце даводзіцца "папацець". А вось на працы праблем са зносінамі і разуменнем не ўзнікае. Калі я не ведаю нейкае слова, то спрабую растлумачыць па-іншаму ці шукаю гэта слова ў інтэрнэце. Пры гэтым нейкай сарамлівасці за тое, што я гэтага не ведаю, у мяне не ўзнікае. Наадварот, навакольныя ставяцца з разуменнем.

**Пра "кастынг" пры зняцці жылля:**

- Знайсці жыллё ў Германіі не вельмі лёгка. Першым чым арэндадаўцы зацвердзяць тваю кандыдатуру, трэба прайсці адмысловы "кастынг". У аб'яве гаспадары кватэр заўсёды паказваюць, чаго хочуць ад новых жыхароў, якія ў іх патрабаванні да кватэраздымшчыка.

Калі вас задавальняе жыллё, і вы падыходзіце па патрабаваннях, вы павінны напісаць арэндадаўцам ліст і распавесці ў ім пра сябе. На падставе гэтага ліста гаспадары кватэры прымаюць рашэнне: сустракацца з вамі ці не. На агляд жылля запрашаюць адразу некалькіх ахвотнікаў.

І ўжо пасля гэтай сустрэчы гаспадары вырашаюць, каму яны здадуць кватэру. Сярэдні кошт пражывання ў адным пакоі ў Кілі складае 250 еўра.



**Пра горад і мясцовых жыхароў:**

- Кіль - невялікі гарадок на беразе Балтыйскага мора. Горад прыгожы і спакойны. Мясцовыя жыхары, як ва ўсёй Германіі, заўсёды ветлыя і ўсмешлівыя. Яны папросту могуць пагаварыць з незнаёмцамі пра надвор'е, пажадаць добрага дня.

Да чаго я доўга не магла прывыкнуць, дык гэта да таго, што па нядзелях, а таксама па вялікіх святах (Каляды, Вялікдзень) усе крамы ў горадзе зачынены, а гарадскія аўтобусы ходзяць раз у паўгадзіны. Таму з часам у мяне з'явілася тыпова нямецкая рыса - закупляць прадукты і іншыя тавары да выхадных.

Святы немцы, у адрозненне ад беларусаў, адзначаюць сціпла: пасядзяць нядоўга, паядуць і разыйдуцца.

**Пра мясцовую кухню і кошты:**

- Наведванне рэстарана ў Германіі - гэта звычайная справа. І паводзяць сябе немцы ў такіх установах спакойна, без пафасу. У тым жа Менску, напрыклад, наведвальнікі рэстаранаў паводзяць сябе інакш - напышліва, лічачы, штоім "усе павінны".

Немцы аддаюць перавагу абедам у коле сям'і. На стале абавязкова павінны быць гарачыя стравы. А вось вячэра можа складацца з бутэрбродаў. Немцы любяць шмат смажаных бульбачкі і бульбы фры, увесь час ужываюць спаржу і шпінат. Паколькі Кіль - партовы горад, мясцовыя ядуць шмат рыбы.

У рэстаранах звычайна падаюць вялікія порцыі, і добра паесці можна за 10 еўра.

Кошты на прадукты тут практычна такія ж, як у Беларусі. Алкаголь - танней: сярэдні кошт за бутэльку нямецкага ці французскага віна каля 5 еўра. А вось пачак цыгарэт каштуе прыкладна 6 еўра.

Вельмі дарагія ў Германіі паслугі цырульніка. Напрыклад, за тое, што табе падстрыгуць кончыкі валасоў, прыйдзецца заплаціць каля 20 еўра.

**Пра Радзіму:**

- З горада Баранавічы я з'язджала лёгка. Быў, вядома, перыяд, калі я 10 месяцаў не магла прыехаць дахаты, і тады пачувалася прыціснута. Плюс гэта быў пераломны момант для мяне - усё змянялася: месца жыхарства, праца, жыллё. Цяпер прынамсі два разы ў год я прыязджаю ў Баранавічы.

За чатыры гады, што я жыву ў Германіі, ні разу не думала пра тое, каб вярнуцца ў Беларусь. Тут я пачуваюся як дома.

***Паводле intex-press.by.***

# Віншуем сяброў ТБМ, якія нарадзіліся ў траўні

Абухоўскі Юры
Адамковіч Аляксандр Эдмун.
Азарка Вольга Ўладзіміраўна
Акуленка Міхаіл
Александровіч Разалія Адам.
Алесіна Тацццяна Міхайлаўна
Аляшчэня Мікалай Мікал.
Анапрыенка Ірына
Анішчык Барыс Віталевіч
Апалька Жанна Віктараўна
Арлоў Валянцін Мікалаевіч
Аскерка Зьміцер
Астахновіч Андрэй Казіміравіч
Астроўская Аксана Барысаўна
Аўсейка Канстанцін
Бабіч Юры Міхайлавіч
Багданчык Зміцер Віктаравіч
Бакшун Валянціна
Баланчук Эдуард Мікалаевіч
Баранік Міхась Антонавіч
Баркун Юры Васільевіч
Бародзіч Сямён Дзмітрыевіч
Баронік Міхал Антонавіч
Бароўскі Анатоль Мікалаевіч
Барыс Сымон Вікенцевіч
Бахун Сяргей Пятровіч
Белавокая Наталля
Бельскі Аляксандр Міхайлавіч
Богуш Святлана Яўгенаўна
Бордак Уладзімір Адамавіч
Боўжык Аляксандр Сцяпан.
Брыцько Ўладзімір
Буднік Янка Фёдаравіч
Буз Андрэй Віктаравіч
Буката Людміла Аляксандр.
Буката Надзея Эдвардаўна
Бурдыка Дзмітры Анатольевіч
Бутэнка Зміцер Сямёнавіч
Быкава Надзея Мартынаўна
Быстранкова Таіса Вікенцеўна
Бяйдук Наталля
Вайцаховіч А.Р.
Валіцкая Іна
Валошчык Мікола Антонавіч
Валчок Ліля
Вараб'ёў Уладзімір Раманавіч
Варонін Улас Канстанцінавіч
Васілеўская Кацярына
Васільева Кацярына
Васільчук Іван Дзмітрыевіч
Ваўчок Крысціна
Вішнеўская Дар'я Дзмітрыеўна
Галубовіч Вольга
Галустаў Эдуард
Ганчарык Марыя Яраславаўна
Гарбачэўскі Васіль
Гаўрыленка Юлія Міхайлаўна
Гладкі Леанід Анатольевіч
Глямбоцкая Рэната Аляксандр.
Гнеўка Анатоль Лявонавіч
Гоўша Ўладзімір Міхайлавіч
Грудзіна Аляксандр Пятровіч
Грумо Зміцер
Грышкевіч Кірыла Ўладзімір.
Гундар Уладзімір Тадэвуш.
Гуркоў Ігнат Дамінік Аляксан.
Гусак Станіслаў Рыгоравіч
Давыдзік Кацярына Канстанц.
Даніловіч Раіса
Дзмітрыеў Андрэй Уладзімір.
Дзяконскі Аляксандр Алякс.
Драўніцкая К.М.
Драўніцкі Іван Пятровіч
Дрозд Галіна
Дубейка Ірына Восіпаўна
Дубовік Іосіф Вацлававіч
Думанскі Аляксандр
Жабінская Марыя Пятроўна
Жолуд Эдуард Васільевіч
Жукоўская Тацццяна Яўгенаўна
Жураўлёва Тацццяна Сяргееўна
Жураўскі Ўладзімір Мікал.
Жылач Тацццяна Міхайлаўна
Зайцаў Андрэй Мікалаевіч
Іванова Анфіса Міхайлаўна
Іода Тамара Мікалаеўна
Ісайкіна Вольга Юр'еўна
Кабылка Віталь
Кавалавіч Мікалай Антонавіч
Кавалёў Станіслаў Аляксанд.
Кавальчук Галіна Тадэвуш.
Кавальчук Часлаў Францавіч
Казакевіч Юрый Іосіфавіч
Калакольцава Аліна
Калацкая Вольга
Калеснікава Алена Ўладзімір.
Калінін Вальдэмар
Каляда Ніна Фёдараўна
Камандзірчык Алесь Аляксан.
Камко Наталля Юр'еўна
Кампанеец Святлана Юр'еўна
Кандракоў Міхаіл Валер'евіч
Кандратовіч Ігар
Кандратовіч Ян Янавіч
Кандрацееў Андрэй Васільевіч
Карабач Алег Віктаравіч
Карнееў Віктар Васільевіч
Карнілава Наталля Яўгенаўна
Кароль Маргарыта Міхайл.
Карпінская Юлія
Карповіч Андрэй Іванавіч
Карцель Настасся
Касавец Іван Язэпавіч
Касцюк Георг Васільевіч
Касцюкевіч Зміцер Станіслав.
Каўлярова Т. М.
Клуйша Яніна Іосіфаўна
Кляшторная Майя Тодараўна
Корзан Сцяпан Уладзіміравіч
Корзан Уладзімір Сцяпанавіч
Корзан Яніна Браніславаўна
Кот Алена
Коўган Сяргей Яўгенавіч
Кравец Дзмітры Юр'евіч
Красоўская Ганна Казіміраўна
Крук Віктар Фёдаравіч
Круцікаў Уладзімір Уладзім.
Кручкоў Сяргей Мікалаевіч
Кудзякін Віталь Пятровіч
Кудрашоў Віктар
Кузьміч Тацццяна Адамаўна
Кульбянкова Іна
Лабачоў Яўген Дзмітрыевіч
Лагун Вольга Эдвардаўна
Лапо Аляксандр Іванавіч
Латоцін Лявон Алякандравіч
Лаўранцова Алена Ўладзімір.
Лебедзева Наталля Мікалаеўна
Леўчанкаў Васіль Мікалаевіч
Леўшык Станіслаў Станіслав.
Лук'янцаў Кірыла
Лытнёў Міхаіл
Люмарова Галіна Сяргееўна
Ляскоўская Зоя Нікіфараўна
Майсеня Людміла Іосіфаўна
Макарскі Андрэй Георгіевіч
Макарчык Уладзімір
Макрыцкая Тацццяна (Ніна) М.
Максімчук Раман Уладзімір.
Малашчанка Тацццяна Сярг.
Маліноўскі Яўген Лявонцьевіч
Малышава Галіна
Малько Пётр Іванавіч
Мальцава Ганна Валянцінаўна
Марцінкевіч Яўгенія
Мацвеева Тацяна Генадзеўна
Мацвееў Максім Іванавіч
Мех Аляксандр Васільевіч
Міхно Міхаіл Васільевіч
Міхноўскі Мікалай Уладзімір.
Міцкевіч Кастусь
Міцкевіч Яўген Фаміч
Моніч Алесь
Мурашка Людміла Мікал.
Муха Валянцін Станіслававіч
Мякшыла Мікалай
Мяснянкіна Ала Міхайлаўна
Навасельская Тацццяна Уладз.
Нагорная Тамара Іванаўна
Нароўская Ала Мікалаеўна
Нарушэвіч Міхаіл Алегавіч
Натынчык Уладзімір Алякс.
Ніжанкоўская Ірына Ўладзісл.
Нікіпорчык Віктар
Новікаў Аляксандр Сяргеевіч
Отчык Андрэй
Падгайская Людміла Лаўрэнц.
Палітава Дзіяна Паўлаўна
Панізнік Сяргей Сцяпанавіч
Паплаўская Ірына Станіслав.
Паўлініч Валер Валер'евіч
Паўловіч Віктар Сяргеевіч
Паўтаржыцкі Канстанцін Бран.
Пашкевіч Ігар
Пералыгін Алесь
Пожанька Ігар Леанідавіч
Пратасавіцкая Марыя Георг.
Пратшчык Людміла Віктар.
Праўдзін Віктар Аляксандр.
Пуцікаў Ілля
Пушкін Ігар Аляксандравіч
Пыжык Аляксей
Пясецкая Тацццяна Ўладзімір.
Пяткевіч Тацццяна Віктараўна
Пятрашка Майя
Пятроўскі Віктар Вячаслав.
Рагачоў Юры Усеваладавіч
Радзюк Алена Іванаўна
Радзюк Уладзімір Сяргеевіч
Рачэўскі Станіслаў Рыгоравіч
Рубанік Тацццяна
Руды Аляксей Уладзіміравіч
Руткевіч Вераніка Антонаўна
Рухлова Тамара
Рымша Фаіна Ціханаўна
Сабуць Галіна Эдмундаўна
Савук Аляксандр Юр'евіч
Салаўёў Зміцер Сяргеевіч
Салговіч Вольга Віктараўны
Салодкі Юры Часлававіч
Самасюк Ганна
Самойленка Арцём Сяргеевіч
Серакова Вольга Канстанцін.
Сердзюкова Марыя Васіл.
Сідар Маргарыта
Сідаровіч Яніна Дзмітраўна
Сілкова Раіса Іванаўна
Сільвановіч Станіслаў Алёйз.
Сіўко Франц Іванавіч
Смалянчук Аляксандр Фёдар.
Снітко Вольга Ўладзіміраўна
Снітко Галіна Мікалаеўна
Станевіч Тамара Іосіфаўна
Станевіч Юры
Сташэўскі Яўген Адамавіч
Строкач Аляксандр Пятровіч
Стукаў Віктар Якаўлевіч
Сцефановіч Рамуальд
Сяліцкая Рыта
Талкачыкава Кацярына Аляк.
Таневіч Галіна Янаўна
Тарасенка Ўладзімір Мікал.
Трахімчык Уладзімір Іванавіч
Тырсін Васіль Анатольевіч
Тышкевіч Галіна Францаўна
Фадзеева Тацццяна Мікалаеўна
Харанека Святлана Станіслав.
Харланчук Аляксандр Анат.
Хатара Мацвей Леанідавіч
Хвайніцкі Часлаў Сіманавіч
Хітрун Ілья Андрэевіч
Холеў Станіслаў Браніслававіч
Хоміч Генадзь Рыгоравіч
Храмлюк Марыя Іосіфаўна
Цаўлоўскі Канстанцін Дзмітр.
Церпугова Алена Фёдараўна
Цітоў Леанід Сцяпанавіч
Цюрын Аляксей Сяргеевіч
Цялюк Мікалай Алегавіч
Чарнышова Алена Аляксанд.
Чухліб Наталля
Чучвага Наталля Мікалаеўна
Чхаідзэ Георг
Чэчат Віктар Аляксандравіч
Шабуня Ніна
Шантар Дзіяна Георгіеўна
Шапуцька Віктар Аляксандр.
Шарах Мікола Аркадзевіч
Шароў Георг Іванавіч
Шарыпкін Генадзь Леанідавіч
Шаўкера Алег
Шахаб Дар'ян
Шахмуць Ніна Іванаўна
Шашытайшвілі Марыя Ўладз.
Шкірманкоў Фелікс Уладзім.
Шошын Руслан Алегавіч
Шупенька Ірына Аляксандр.
Шуткін Сяргей Сяргеевіч
Шчарбіна Святлана
Шчэрба Святлана Мікалаеўна
Шык Кірыл Іванавіч
Шыла Ўладзімір Аляксандр.
Шыманіца Ала Іванаўна
Шышкавец Ала Аркадзеўна
Юрэвіч Генрых Іосіфавіч
Язвінскі Артур Аляксандр.
Якубчык Генрых
Яніцкая Мая Міхайлаўна
Ярмалінская Ніна Адамаўна
Ярохаў Уладзімір Пятровіч
Яфімчык Генадзь Генадзевіч
Яцыновіч Святлана

(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)

Алег Трусаў

# Гісторыя сярэднявечнай Еўропы (V - XV стагоддзі)

**РАЗДЗЕЛ X. КІЕЎСКАЯ РУСЬ І ЎСХОДНЕСЛАВЯНСКІЯ КНЯСТВЫ X - ПАЧАТКУ XIII СТСТ.**

*1. Кіеўская Русьу X-XI стст.*
*2. Першая беларуская дзяржава - Полацкая зямля.*
*3. Смаленская зямля.*
*4. Чарнігаўская зямля.*
*5 Турава - Пінская зямля.*
*6. Галіцка - Валынская зямля.*
*7. Узнікненне Наўгародскай рэспублікі.*

**1. Кіеўская Русь у X-XI стст.**

***Паходы Алега.*** Першы князь Кіеўскай Русі, захапіўшы ўладу, пачаў называць сябе "вялікім князем". У 907 г. Алег, сабраўшы вялікае войска (каля 80 тысяч) з розных славянскіх і фінскіх плямёнаў, пайшоў на Канстанцінопаль, які славяне называлі *Царградам*. Візантыя, каб заключыць мір, мусіла заплаціць вялікую кантрыбуцыю - па 12 грыўнаў на кожнага ваяра, а таксама даніну князям-васалам Алега. Наступная дамова была заключана ў 911 г., і кіеўскія купцы займелі права гандлю ў Візантыі.

Другі паход Алега быў накіраваны на Усход. У 909-910 гг. кіеўскае войска на 500 караблях паднялося ўверх па Доне, потым праз волак трапіла спачатку ў Волгу, а потым і ў Каспійскае мора. З нарабаваным дабром захопнікі вярталіся ў Кіеў, але па дарозе на іх напалі хазары і разбілі войскі Кіева.

***Князь, Ігар і княгіня Вольга.*** Пасля смерці Алега вялікім князем стаў Ігар (912-945). У гэты час супраць улады Кіева паўсталі драўляне, і Ігар, перамогшы іх, абклаў утрая большай данінай. Потым тры гады Ігар ваяваў з пяменем *улічаў*, разбіў іх і захапіў іх сталіцу, горад *Перасечэнь*. У 941 г. войска Ігара напала на Візантыю, але візантыйскі флот дзякуючы "грэцкаму агню" спаліў большасць славянскіх караблёў. У 944 г. паход на Візантыю паўтарыўся, і была заключана новая дамова. Кіеў пагадзіўся не пускаць балгараў у Крым, дзе былі візантыйскія калоніі, і не нападаць на іх. У 943 г. кіеўскія войскі зноў напалі на берагі Каспійскага мора. Яны захапілі горад Дэрбент і некаторыя іншыя гарады. Паколькі Ігар абклаў вялікай данінай драўлянаў, яны ў 945 г. паднялі паўстанне і забілі яго. Жонка Ігара, Вольга, пачала кіраваць дзяржавай і жорстка здушыла паўстанне, пры гэтым уся драўлянская знаць была забітая. Пазней Вольга наведала з візітам Канстанцінопаль і мела асабістую сустрэчу з імператарам Канстанцінам Багранародным. У 959 г. пасольства Вольгі было накіравана да германскага імператара Атона. У 961 г. у Кіеў у адказ прыехала нямецкая дэлегацыя місіянераў на чале з біскупам Адальбертам, якія хацелі ахрысціць жыхароў Кіеўскай Русі ў заходняе хрысціянства. Але Вольга прыняла ўсходняе хрысціянства, бо саюз з Візантыяй для яе быў больш важны.

***Княжанне Святаслава.*** У 965 г. кіеўскім князем стаў сын Ігара і Вольгі Святаслаў, які ў 964 г. прымусіў племя вяцічаў плаціць яму даніну. Паколькі раней вяцічы плацілі даніну хазарам, у 965 г. войскі кіеўскага князя напалі на Хазарскую дзяржаву. Яны спачатку захапілі горад Саркел і на гэтым месцы паставілі сваю цвердзь, *Белую Вежу*, потым захапілі і горад Тмутаракань на Тамані. У 968 г. на Кіеў напалі печанегі, але захапіць яго не здолелі. У 969 г. войскі Святаслава захапілі і знішчылі галоўныя хазарскія гарады Самандар і Іціль. Хазарская дзяржава, якая стрымлівала орды качэўнікаў, была знішчана. Пад сценамі Кіева апынуліся печанегі, якія перарэзалі гандлёвыя шляхі на арабскі Ўсход. Яны не раз рабілі засады і на дняпроўскім шляху ў Візантыю. У 967 г. імператар Візантыі прапанаваў Святаславу напасці на Балгарыю, моцнага ворага імперыі.

У 968 г. вялікае войска Кіева ўварвалася ў Балгарыю, разбіла войскі балгараў і захапіла шмат гарадоў. Святаслаў зрабіў сваёй базай горад Пераяславец на Дунаі і нават хацеў перанесці ў гэты горад сталіцу з Кіева. У гэты час вялікае войска печанегаў аблажыла Кіеў, дзе заставалася княгіня Вольга з малой дружынай, але захапіць яго не здолела. У 969 г. Святаслаў уступіў у саюз з балгарамі супраць Візантыі. Аб'яднанае войска разбіла атрады візантыйцаў і захапіла Македонію і, часткова, Фракію. У 971 г. новае войска Візантыі разам з балгарскім царом Барысам II напала на армію Святаслава, які мусіў падпісаць з Візантыяй дамову аб міры. Святаслаў пачаў вяртацца з войскам на радзіму, але па дарозе, вясной 972 г., яго забілі печанегі.

***Першыя міжусобіцы. Яраполк і Уладзімір.*** Кіеўскі пасад заняў старэйшы сын Святаслава, князь *Яраполк* (973-980). Меншыя сыны Святаслава з гэтым не пагадзіліся і пачалі вайну з Яраполкам. У гэтай барацьбе перамог ноўгарадскі князь Уладзімір, які з наёмнай варажскай дружынай захапіў Полацкую дзяржаву, што да таго часу не ўваходзіла у Кіеўскую Русь, гвалтам узяў за жонку беларускую князёўну *Рагнеду*, а потым захапіў Кіеў і забіў Яраполка. Яго ўлада доўжылася і 980 па 1015 г. Спачатку новы князь у 981 г. абклаў данінай вяцічаў, у 983 г. - яцвягаў, а ў 984 г. - радзімічаў. Такім чынам, у канцы X ст. беларускія землі часова трапілі ў склад Кіеўскай дзяржавы. У 988 г. была зроблена адміністрацыйная рэформа. Былі ліквідаваны мясцовыя "племянныя" княжанні, дзяржаву падзялілі на вобласці вакол вялікіх гарадоў. Замест мясцовых князёў у самыя вялікія гарады Уладзімір прызначыў сваіх сыноў, а ў меншыя гарады - сваіх пасаднікаў. На межах краіны кіеўскі князь пачаў будаваць новыя гарады і цвердзі. Фактычна, уся ўлада ў краіне апынулася ў руках аднаго княжацкага роду.



Залатнік Уладзіміра Святаславіча (манета чаканілася ў Кіеве ў канцы X - пач. XI стст.).



Дзесяцінная царква ў Кіеве. X ст. Рэканструкцыя М. Халасценкі. Мал. Л. Андрыеўскага, В. Буйноўскага.

Уладзімір пачаў і рэформы ў галіне ідэалогіі. Афіцыйнай рэлігіяй Кіеўскай Русі напачатку было язычніцтва. Кожнае племя мела сваіх мясцовых багоў, а агульнага пантэону для ўсёй краіны не было. Уладзімір вырашыў з гэтым разабрацца.

У Кіеве на пагорку каля свайго палаца князь зрабіў капішча і рознымі выявамі багоў, на чале з Перуном, богам маланкі і грому. Аднак неўзабаве, у 988 г. Уладзімір вырашае прыняць хрысціянства ўсходняга абраду, запазычыўшы яго ў Візантыі. Усе ідалы былі скінутыя, а на іх месцы пачалі будаваць спачатку драўляныя, а потым і мураваныя храмы. У 989-996 гг. у Кіеве была пабудавана першая мураваная царква *"Дзесяцінная"*. Яе пабудавалі візантыйскіпі дойліды.

***Кіеўскае дойлідства.*** Грэцкія дойліды былі знакамітымі ва ўсім хрысціянскім свеце. Яны прынеслі на Русь ужо распрацаваную сістэму крыжова-купальнага храма. Такі храм змяніў уяўленне аб сусвеце, які раней успрымаўся ў даволі абстрактных структурах - кола, сіметрыя, дрэва жыцця і г. д., стаўшы яго сімвалічным цэн трам, які ўвасабляўся ў алтары. Адпаведна з гэтым "размяркоўваліся" ўсе часткі храма. Ніжняя суадносілася з Зямлёю, верхняя прастора з Небам, Неба падзялялася на "ніжняе" і "верхняе".

Новае светаўспрыманне прынесла гістарычнае ўсведамленне часу. Вядома, гэта адбілася і ў архітэктуры. Чатыры фасады храма маюць свой пачатак, сярэдзіну і канец. Адпаведна літургіі, кірунак іх развіваўся з захаду на ўсход. Заходняя частка (нартэкс) абазначала зямлю, цэнтральная (карабель, або неф) бачнае неба, усходняя (алтар) - трон бога. Складаная сімволіка абумовіла такі ж складаны архітэктурны вобраз Дзесяціннай царквы: разгалінаваная трохнефавая частка, кругавыя галерэі, шматлікія галовы з купаламі.

У першай палове XI ст. пры сыне Уладзіміра Яраславе быў пабудаваны галоўны храм Кіеўскай Русі - *Сафійскі сабор*, які павінен быў увасабляць моц і веліч дзяржавы, стаць не толькі культавым, але і культурна-палітычным цэнтрам Кіева. Але пасля смерці Яраслава адзінства і магутнасць дзяржавы пахіснулася.

Разам з уздымам эканамічнага і культурнага жыцця ў асобных княствах, далёкіх ад Кіева, пачалося мураванае будаўніцтва.

Першыя мураваныя храмы, падобныя да Кіеўскай Сафіі, якія таксама атрымалі назву "Сафія", былі пабудаваны ў Ноўгарадзе і Полацку ў сярэдзіне XI ст. Гэтым ноўгарадцы і палачане хацелі падкрэсліць сваю незалежнасць ад Кіева, даказаць, што іх гарады не горшыя.

***Цяжкасці хрысціянізацыі ўсходніх славян.*** Аднак хрысціянства сярод усходніх славян і суседскіх балцкіх і фіна-ўгорскіх народаў, асабліва на вёсцы, распаўсюджвалася вельмі павольна. Аб гэтым сведчаць і змены ў пахавальным абрадзе. Славяне-язычнікі свае нябожчыкаў спальвалі на вогнішчы, і потым клалі парэшткі ў гліняныя гаршчкі-урны і закопвалі ў курганах. Пад уплывам хрысціянства абрад крэмацыі быў забаронены, але курганы, куды клалі цела памерлага з наборам розных рэчаў, існавалі да пачатку XIII ст. У аддаленых ад гарадоў мясцінах людзі яшчэ ў XIV-XV стст. і нават пазней прыносілі ахвяры мясцовым багам ды іх сімвалам - стодам, святым камяням, крыніцам і дрэвам.

***Працяг міжусобіц.*** У 1014 г. Ноўгарад перастаў плаціць даніну Кіеву, і Ўладзімір у 1015 г. пачаў рыхтаваць войска для паходу на Ноўгарад, але раптоўна памёр. Уладу пераняў яго старэйшы сын *Святаполк*. Каб умацаваць сваю ўладу ён забіў траіх сваіх братоў і выступіў супраць ноўгарадскага князя *Яраслава*. Але ў *бітве пры Любечы* ў 1016 г. яго войска было разбіта ноўгарадцамі, Святаполк уцёк у Польшчу, а Яраслаў заняў Кіеўскі пасад. Святаполк разам з польскім каралём Баляславам Харобрым выступіў супраць войск Яраслава і ў 1018 г. разбіў іх на рацэ Заходні Буг. Яраслаў вярнуўся ў Ноўгарад, а Святаполк з Баляславам - у Кіеў. Аднак Яраслаў з новым ноўгарадскім войскам *у бітве на рацэ Альце* каля Пераяслава ў 1019 г. разбіў Святаполка і яго хаўруспікаў печанегаў. Полацкі князь Брачыслаў, які аднавіў незалежнасць ад Кіева, у 1021 г. напаў на Ноўгарад і абрабаваў яго. Ды на сёмы дзень яго дружыну нагналі кіяўляне і змусілі вярнуць нарабаванае. У 1023 г. супраць Яраслава выступіў яго брат *Мсціслаў Тмутараканскі*. У 1024 г. пад Чарнігавам Мсціслаў разбіў дружыну Яраслава, і той прызнаў уладу Мсціслава ў Чарнігаве. Але пасля смерці Мсціслава ў 1036 г. Яраслаў зноў стаў адзіным уладаром Кіеўскай Русі. У 1051 г. упершыню мітрапалітам у Кіеве стаў не грэк, а мясцовы святар, Іларыён. У 1054 г. князь Яраслаў памёр, і дзяржаву падзялілі паміж яго сынамі і пляменнікамі.



Збруцкі ідал. Від з чатырох бакоў. Музей у Кракаве.



Сафійскі сабор у Кіеве (пасля 1037 г.). Сучаснае фота.

(Працяг у наст. нумары.)

# "Беларусь на скрыжаванні гісторыі і сучаснасці"

Больш за тры гадзіны доўжылася вечарына 6 красавіка 2017 г. на "Коле сяброў" у Магілёве: слухалі вядомага беларускага паэта Георгія Ліхтаровіча і гісторыка Леаніда Лыча з лекцыяй "Беларусь на скрыжаванні гісторыі і сучаснасці".

Спачатку Леаніда Міхайлавіча папрасілі распавесці пра сябе. Нарадзіўся ён у 1929 г. у сялянскай сям'і ў вёсцы Магільнае на Уздзеншчыне. Пасля вайны навучаўся ў Менскім статыстычным тэхнікуме, ваенным вучылішчы, скончыў гістарычны факультэт Башкірскага педагагічнага інстытута. Працаваў настаўнікам. З 1962 года - у Інстытуце гісторыі Акадэміі навук БССР, прайшоў шлях ад старэйшага лабаранта да вядучага навуковага супрацоўніка, доктара гістарычных навук, прафесара. Старшыня Тапанімічнай камісіі пры Прэзідыуме Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 1992-1996 гг.

Далей размова ішла аб значэнні мовы, аб яе выключна важнай ролі у лёсе народа, у захаванні і адбудове нашай Незалежнай Беларусі і культурнага адраджэння нашага Беларускага Народа. Мова - вельмі істотная рэч у жыцці народа, яна робіць яго твар, а калі яе аднімаюць ад народа, тады духоўна яго забіваюць. Нацыя моцная не тэрыторыяй, не колькасцю насельніцтва, але ж культурай і мовай кансалідаванага народа, які мае дастаткова моцы, жадання, здольнасці супрацьстаяць асіміляцыйным працэсам дзеля захавання сваёй адметнай ад іншых Бацькаўшчыны. Галоўнае багацце кожнай краіны - спаўна надзеленыя нацыянальнай самасвядомасцю, апантаныя ідэяй нацыянальна-дзяржаўнага суверэнітэту людзі. Калі іх у дастатковай колькасці, народ у стане выйсці пераможцам з любой цяжкай сітуацыі.

Мы жывём у вельмі адказны час: вісіць меч над нашай нацыянальнасцю, незалежнасцю. Махавік русіфікацыі набірае абароты. "Рассия кончается, где кончается русский язык" - гэта пагроза для зараз знявечанай нацыянальна нашай Бацькаўшчыны.

Ёсць краіны двухмоўныя, трохмоўныя і г.д. Аднак, гэтыя краіны ёсць поліэтнічнымі, бо на іх тэрыторыі спрадвеку жывуць прадстаўнікі розных этнасаў. Беларусь - гэта монаэтнічная краіна з адным карэнным народам - беларусамі. Рускія, украінцы і іншыя народы, якія жывуць у Беларусі, ёсць тут этнічнымі супольнасцямі, мовам якіх ніводная краіна не дае статусу дзяржаўнай. Таму наданне рускай мове статусу другой дзяржаўнай ў Беларусі было зроблена насуперак міжнароднай практыцы рэгулявання моўных працэсаў. Сусветная навука мела вельмі грунтоўныя манаграфічныя даследаванні ў пытанні двухмоўя, калі тая ці іншая краіна спрабавала ўводзіць двухмоўе. Прыкладам могуць быць даследаванні Карла Каўцкага. Згодна з ім, афіцыйнае двухмоўе - гэта часовая з'ява. Паміж мовамі вядзецца бязлітасная барацьба на выцісканне. Як правіла, з цягам часу перамагае адна мова, незалежна ад таго, ці ёсць яна роднай для большасці насельніцтва. Усё залежыць ад таго, як улады глядзяць на моўную палітыку. Таму пры адпаведнай палітыцы ўладаў нават мова карэннага насельніцтва можа страціць пазіцыі на сваёй гістарычнай тэрыторыі.

Дзеля выхаду з гэтай сітуацыі, лічыць Леанід Лыч, трэба, каб дзяржава афіцыйна выступіла і прызнала сваю памылку і заявіла, што, напрыклад, з новага году мы пачынаем вяртацца да сваіх нацыянальных каранёў, у першую чаргу - да мовы. Людзей трэба рыхтаваць. У нашых людзей у глыбінных пластах душы нацыянальнае захоўваецца. Прыгадайце, як абудзілася грамадства, калі напрыканцы 1980-х адчулася, што нешта можна рабіць на нацыянальнай хвалі. Хаця ўжо тады інтэлігенцыя ў другім, а то і ў трэцім пакаленні была зрусіфікаваная. Беларуская вёска была таксама не тая. Нашу вёску русіфікавалі радыё, тэлебачанне і кіно. Існавала шмат фактараў, якія адвучвалі нас ад беларускай мовы, каб мы жылі не сваім жыццём. Аднак, прафесар верыць, што нават сёння варта толькі дзьмухнуць у гэтыя нашыя нацыянальныя вуголлі, і адразу разгарыцца вогнішча. Але ж хто дзьмухне?..

Лёс беларускай мовы сёння цалкам залежыць ад дзяржавы, бо менавіта ў руках дзяржавы знаходзіцца сфера адукацыі. Дзяржава можа падняць мову любой ступені захворвання. Цудоўным прыкладам тут можа быць дзейнасць Дзяржавы Ізраіль у адраджэнні іўрыту. Прыгадваем наша адраджэнне пачатку 1990-х гадоў. Вяртанне беларускай мовы ў публічнае жыццё пайшло так спраўна, што калі б гэты працэс не быў перарваны ў 1995 г. і працягнуўся яшчэ дватры гады, то руская мова не мела б шанцаў, каб у выніку рэферэндуму стаць другой дзяржаўнай. Наогул, калі 26 студзеня 1990 г. быў прыняты Закон "Аб мовах", ніхто так актыўна не вывучаў беларускай мовы, як гэта рабіла чынавенства. Таму, калі б Прэзідэнт пачаў размаўляць па-беларуску, усе б стараліся ўторыць яму. Як ні дзіўна, але лёс мовы залежыць не ад навукоўцаў, а ад палітыкаў. Насельніцтва размаўляе на той мове, на якой абслугоўваецца палітычнае жыццё ў краіне.

Леанід Лыч лічыць, што народ па-за сваёй роднай мовай не з'яўляецца паўнавартасным народам, гэты народ этнічна хворы. Без сваёй мовы такі народ не стварае нічога арыгінальнага, бо паўтарае, прычым у горшым варыянце, тое, на чыю мову і культуру ён перайшоў. Таму як нейкі социум такі народ будзе існаваць, але ён не будзе ўяўляць нечага самабытнага, якое ў стане ўзбагачаць культурную разнастайнасць цывілізаванага свету. Мова толькі тады развіваецца і сцвярджае сябе, калі ўжываецца ў грамадскім жыцці. У нас беларуская мова ў грамадскім жыцці не выкарыстоўваецца.

Ёсць тры кіты, на якіх трымаецца кожны народ. Гэта дзяржава, адукацыя, рэлігія. Ніводзін з гэтых кітоў не служыць апірышчам для беларускага народа.

Нас чакае жахлівы лёс, калі ўсё пакінуць такім, як яно ёсць на сёння. Нам не пашанцавала ў нацыянальна-культурным жыцці. У нас мова знаходзіцца на нулявым цыкле, з прычыны таго, што самі беларускія палітыкі звялі яе да такога нікчэмнага узроўню.

Мы павінны смела прызнаць, што мы не з'яўляемся тут гаспадарамі. У беларускай краіне зусім не задавальняюцца патрэбы людзей у іх нацыянальна-культурным развіцці. Няма нацыянальных радыё і тэлебачання.



Усё гэта трэба рабіць неадкладна. Інакшай, наш нацыянальны патэнцыял яшчэ больш аслабне. Калі беларуская школа будзе працаваць на прыродным беларускім этнакультурным матэрыяле, з яе сценаў будуць выходзіць актыўныя носьбіты беларускай культуры, гэта датычыць і ВНУ. Будуць, безумоўна, вынікі і ад працы тэлебачання.

Усё ў руках грамадства, у руках народа, калі такую палітыку будзе вымушаная праводзіць дзяржава.



Ініцыятыўным шляхам, пры ўсёй павазе прафесара да Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, іншых грамадскіх арганізацый, праблему вырашыць немагчыма. Грамадскіх высілкаў тут недастаткова. Выратуе народ з асіміляцыйнай багны толькі дзяржава.

Беларусь няўмольна ператвараецца ў ліхой памяці "Северо-Западный край России". І гэты працэс можа стаць рэальнасцю, паколькі за яго плячыма стаіць магутны, добра спрактыкаваны ў сваёй сістэмнай русіфікатарскай палітыцы шматлікі сваёй колькасцю дзяржаўны чыноўніцкі апарат. Пакуль жа гэта ліха не агорала Беларусь, трэба мацаваць, гуртаваць яе ўнутраныя і знадворныя нацыянальныя сілы, максімальна выкарыстоўваючы набыты ў мінулыя гады досвед і асабліва той, што назапасіў.

Калі карэнным чынам не зменіць дзяржаўнай палітыкі ў галіне культурна-моўнага развіцця беларускага народа, ужо праз 10-15 гадоў яго нацыянальную самабытнасць давядзецца шукаць толькі пад мікраскопам ці сярод музейных экспанатаў. На сёння ўзровень русіфікацыі беларускага народа самы высокі за ўсю яго гісторыю. І здарылася гэта не стыхійна ці па волі народа, а праз мэтанакіраваную дзейнасць самых высокіх эшалонаў дзяржаўнай улады Рэспублікі Беларусь, якія не ўяўляюць свайго жыцця інакш, як толькі цалкам інтэграваным у рускую культурна-моўную стыхію, у якую, як толькі могуць валакуць усю беларускую нацыю. Тое, чаго на працягу соцень гадоў не ўдалося здзейсніць польскім і рускім асімілятарам, з поспехам даваршаюць сваёй гадоўлі геростраты.

Абыякавае стаўленне высокіх службовых асобаў і запраданых дзяржаўным уладам розных грамадскіх рухаў да нацыянальнага суверэнітэту ужо далі свае адмоўныя вынікі. Сучасную Беларусь толькі з вялікай доляй умоўнасці можна назваць суверэннай дзяржавай.

- Нацыянальная адукацыя - гэта эліксір жыцця кожнага народа, - сцвярджае Леанід Лыч - Нам яе стагоддзямі не давалі, прычым улады суседніх славянскіх краін. Таму і маем такую бедную гістарычную памяць, цураемся роднай культуры і мовы, абыякавыя да таго, ці захаваемся як самабытны этнас, ці ператворымся ў бесструктурную, безаблічную масу, будзем утрыманцамі духоўных каштоўнасцяў суседніх народаў, не баючыся бясследна расстаць, знікнуць у іх асяроддзі. Калі дзяржава не пойдзе на стварэнне нацыянальнай адукацыі, адпадуць усякія падставы гаварыць пра яе (дзяржавы) намер выратаваць беларускі народ ад рускай культурна-моўнай асіміляцыі.

Далейшай трансфармацыі беларусаў у безнацыянальную, безаблічную масу неабходна як мага хутчэй пакласці канец. Дзякуй Богу, яшчэ не ўсё канчаткова страчана. Але хутка нас могуць залічыць (што ўжо і робяць у сваіх заявах кіраўнікі абедзвюх краін) да рускіх. Такое немінуча адбудзецца, калі і надалей пры маўклівай згодзе беларусаў дзяржавай будзе праводзіцца мэтанакіраваная палітыка русіфікацыі. Здаровыя колы беларускага грамадства павінны згуртавацца і рашуча выступіць супраць ператварэння насельніцтва краіны ў нешта "прамежкавае", што не абміне і ўсе яе этнічныя групы, хіба што за выключэннем рускай. І беларуская зямля ператворыцца ў тыповую рускую культурна-моўную правінцыю, насельніцтва якой будзе называць сябе рускім, да чаго так імкнуўся ў другой палове XIX ст. стаўленік царскіх улад на пасадзе віленскага генерал-губернатара Міхаіл Мураўёў.

Дык ратуймася ж усёй грамадой ад такой злыбяды!

***Н.М. Шамянкова.***

# Погляд праз сто гадоў

14 красавіка 2017 года ў новым офісе выдавецтва "Галіяфы", якое ўзначальвае знакаміты паэт Зміцер Вішнёў (1973 г.н.) адбылася творчая сустрэча з вядомым даследчыкам і інтэлектуалам Міхаілам Галдзянковым. Першага памятаю, як літаратара, другі вядомы, як вельмі папулярны журналіст адной з моладзевых газет...




На імпрэзе шаноўны Міхаіл прэзентаваў сваю апошнюю кнігу "Забытая Першая сусветная вайна", якая пабачыла свет ў сакавіку 2017 г. Наклад навукова-папулярнага выдання 99 асобнікаў. Дызайн вокладкі зрабіла Яўгенія Багдановіч, а карэктарам з'яўляецца Лізавета Таран.

Як адзначае аўтар: *"Задачы дадзенай кнігі не столькі ў тым, каб падрабязна прасачыць гісторыю гэтай забытай вайны, колькі распавесці аб асабліва важных яе момантах, выкрыць міфы аб гэтай вайне і прапанаваць сваё бачанне, а таксама дату завяршэння Першай сусветнай вайны, бо факты кажуць, што яна не скончылася 11 лістапада з падпісаннем пераміра'я паміж Антантай і Германіяй."* Аўтар сцвярджае, што вайна доўжылася шэсць гадоў. У кнізе бачу шмат спрэчных момантаў. Я не з усім згодны, але лічу, што выданне зацікавіць інтэлектуальнага чытача.

Мне асабіста спадабалася, як аўтар распавядае пра фінальны эпізод Першай сусветнай, пра фінскі этап. Аўтар таксама расказвае пра савецка-польскую вайну 1919-1920 г. і Слуцкае паўстанне, якое дагэтуль дрэнна вывучана даследчыкамі, і нічога новага аўтар пра яе не распавёў. У кнізе дзясяткі якасных фотаздымкаў. Чытаецца яна хутка. Напісана інтэлегентна.

На імпрэзе прысутнічала грамадскасць г. Менска.

Спадзяюся, што кніга будзе перавыдадзена. Яна каштуе 26 рублёў. Жадаю выдавецтву "Галіяфы" новых кніг, а таксама паспяховых і цікавых прэзентацый.

***Аляксей Шалахоўскі,***
*журналіст-фрылансер,*
*гісторык культуры.*





Да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання

# Зігзагі лёсу Ўладзіміра Васько

У рамках чарговага паседжання літаратурнага аб'яднання "Сувкеццe" пры рэдакцыі "Лідскай газеты" адбылася прэзентацыя новай кнігі аднаго са старэйшых сяброў літаб'яднання, паэта і празаіка Ўладзіміра Гаўрылавіча Васько - "Зігзагі лёсу".

"Зігзагі лёсу" - пятая кніга Ўладзіміра Васько і другая яго кніга прозы. Гэтая кніга аўтабіяграфічная, у ёй пісьменнік расказвае пра свой асабісты жыццёвы шлях. Пісаліся "Зігзагі лёсу" на працягу года (прыкладна ў 2013-2014 гадах).

паэта паказана ў кнізе паслядоўна і падрабязна. Шмат сустракалася на яго жыццёвым шляху людзей, якія спрыялі гэтаму станаўленню і творчаму росту, асабліва ў час вучобы ў Гарадзенскім дзяржаўным педагагічным інстытуце імя Янкі Купалы. З цеплынёй і ўдзячнасцю згадваюцца сустрэчы з пісьменнікам Васілём Быкавым, паэтэсай Данутай Бічэль, прафесарам Аляксеем Пяткевічам, кампазітарам Яўгенам Петрашэвічам і многімі іншымі творчымі людзьмі, больш ці менш вядомымі.





- Спачатку ў мяне была задумка напісаць пра свой радавод (толькі для сваёй сям'і, як сямейную рэліквію), - гаворыць аўтар кнігі. - Потым я ад гэтай задумкі адмовіўся - вырашыў напісаць сваю біяграфію, спачатку таксама толькі для сям'і. А потым палічыў, што мой жыццёвы шлях будзе цікавы шырокаму колу чытачоў.

Сапраўды, пісьменніку было што ўспомніць, было што занатаваць на паперы.

*"У мяне вельмі рана прачнулася памяць"*, - піша Уладзімір Васько ў самым пачатку сваёй аўтабіяграфіі. Яна пачынаецца з самага ранняга дзяцінства, з матчынай калыханкі, з калыскі, якую сплёў з лазы дзед. Аўтар кнігі - з пакалення дзяцей вайны, і цяжкае ваеннае дзяцінства адбілася ў памяці, знайшло адлюстраванне на першых старонках кнігі.

Аўтар вельмі рана палюбіў паэзію, чаму паспрыяў яго айчым Іосіф, які ведаў на памяць шмат вершаў беларускіх класікаў і быў даволі пісьменным па тым часе чалавекам. Станаўленне Ўладзіміра Васько як

У кнізе нямала рамантычных старонак, дзе аўтар згадвае пра першае каханне, вайсковую службу, паездкі моладзі ў 50-60-я гады на цаліну, студэнцкае жыццё. Знайшлі сваё адлюстраванне на старонках кнігі і перыяды працы ў сельскай школе, у раённых газетах (у тым ліку ў газеце "Уперад" ("Лідскай газеце"), якой Уладзімір Васько аддаў амаль трыццаць гадоў).

Як адзначылі на прэзентацыі кнігі першая з яе чытачоў, кніга "Зігзагі лёсу", як і папярэднія кнігі пісьменніка, прасякнутая любоўю да Радзімы, да родных мясцін. Як і ў "Лясной рапсодыі", і ў паэтычных кнігах аўтара, у ёй сустракаецца шмат яркіх пейзажных замалёвак, выказваецца захапленне непаўторнай прыродай прынёманскага краю. А яшчэ кніга прымушае задумацца аб хуткаплыннасці часу.

Сябры літаб'яднання "Сувкеццe" павіншавалі Уладзіміра Гаўрылавіча з выхадам чарговай кнігі і пажадалі далейшых творчых поспехаў.

*Аляксандр МАЦУЛЕВІЧ.*

*Спадчына*

# Невядомы сцэнічны дыялог Міколы Арочкі



Са сваім знакамітым земляком паэтам, празаікам, літаратуразнаўцам і перакладчыкам, доктарам філалагічных навук Міколам Арочкам (1930-2013) я шмат гадоў сябраваў, асабліва, калі ён больш за 20 гадоў жыў у роднай вёсцы Вецявічы на Слонімшчыне. Гэта быў цікавы, назвычай таленавіты і шчыры чалавек. Гутарыць з ім можна было бясконца. У апошнія гады свайго жыцця ён паціху пакідаў мне свае раней не апублікаваныя вершы, а потым, калі старэйшага земляка не стала, вершы і асабістыя дзённікавыя запісы мне перадала яго жонка Марыя Іванаўна. Усе яны чакаюць асобнага выдання.

За сваё жыццё Мікола Арочка напісаў і выдаў шмат кніг паэзіі, літаратуразнаўчых даследаванняў і перакладаў. Яго першы зборнік паэзіі "Не ўсе лугі пакошаны…" выйшаў у свет у 1958 годзе. Затым пісаліся і выдаваліся новыя кнігі.

Ужо ў ранніх паэтычных радках аўтара абазначыліся матывы, вобразы, якія сталі, па сутнасці, галоўнымі ў яго паэзіі - гэта Бацькаўшчына, зямля, зерне, жыта, жыццё, родная мова, гісторыя… Паэтызацыя бацькоўскай зямлі і свету родных людзей пачалася з першых творчых крокаў і доўжылася да яго апошніх дзён. Мянялася жыццё, а разам з ім мяняўся ракурс яго спасціжэння, паглыбляліся каардынаты вымярэння. Важкім дасягненнем беларускай літаратуры сталі яго драматызаваныя паэмы "Курганне", "Крэва", "Каранацыя Міндоўга". З глыбінь XVI стагоддзя паэт стварыў светлы воблік беларускага першадрукара ў драматызаванай паэме "Судны дзень Скарыны". Усе сюжэтныя калізіі твора (рэальныя, бытавыя, сацыяльна-палітычныя падзеі) так ці інакш закранаюць самую істотную праблему, у якой сканцэнтравана сутнасць жыцця Скарыны - ідэю асветы, культуры, нацыянальнага Адраджэння.

Шмат гадоў Мікола Арочка пражыў у родных Вецявічах. Бываючы там, я слухаў яго, ён чытаў мне свае творы, распавядаў пра планы. Цяжка прыгадаць сёння вёску, дзе б некалі шмат гадоў жыў доктар навук. А ён жыў, рухаўся, дыхаў, пісаў. Бывала, глядзеў на яго і неяк балюча станавілася ад таго, што лёс загнаў гэтага чалавека сюды, у глыбінку, на хутар жыцця. Не па добрай волі загнаў. На мясцовым пагосце даўно пахаваны два яго сыны, таму ён вярнуўся да сыноў, да землякоў, на бацькаўшчыну. А цяпер сам знайшоў там апошні свой супакой побач з сынамі.

Міколу Арочку заўсёды турбавалі адносіны ўлады да нашай роднай мовы, а ў апошнія гады ён за гэта моцна перажываў, шмат разважаў, думаў. Неяк аднойчы перадаў ён мне свой сцэнічны дыялог "Спрэчка Багушэві-ча з нігілістам". "Можа калі і дзе на-друкуеш", - казаў. Я выконваю яго просьбу і прапаную чытачам "Наша-га слова" раней невядомы сцэнічны дыялог Міколы Арочкі. Напісаны ён быў аўтарам у роднай вёсцы 31 ліпе-ня 1989 года.

*Сяргей ЧЫГРЫН.*

**Спрэчка Багушэвіча з нігілістам**
**Сцэнічны дыялог**

**БАГУШЭВІЧ:**
Не пакідайце беларускай сваёй мовы,
Каб не памерці! -
Вось мой запавет.

**НІГІЛІСТ:**
Каб не памерці?..
З дзіўнаю умовай
Вы гэты афарызм пусцілі ў свет.
Хіба, сваёй адрокшыся гаворкі,
Памру я?.. Глупства!
Не памрэ народ.
Хутчэй, што стане ўсё наадварот:
Ёсць мовы першых велічынь -
Як зоркі!
Адна з іх ззяе побач нас… Чаму ж
Замест сваёй,
з мужыцкасцю нязводнай,
Суседнюю навек
не выбраць - роднай?

**БАГУШЭВІЧ:**
Суседнюю - уваж,
Сваю ж - не зруш!
Забудзем - значыць,
суджана памерці…

**НІГІЛІСТ:**
Вы сэнс жыцця
Метафарай не мерце!

**БАГУШЭВІЧ:**
Ці можа дрэва жыць без каранёў?
А цела - без душы?

**НІГІЛІСТ:**
На мне праверце!

**БАГУШЭВІЧ:**
Зачахлае карэнне ёсць і ў пнёў!..
О, колькі пнёў,
Дзе душы ўкралі чэрці!

**НІГІЛІСТ:**
Выходзіць, што душа ўжо - не мая?
Ха-ха!.. Яна у кіпцях духа злога?
Ні ў Бога, ні ў чарцей не веру я,
Не веру ў край,
З якога робіць Бога!
Нашто трымацца мне за нейкі Лепель?
Радзіма там - дзе лепей!

**БАГУШЭВІЧ:**
Так слепакі плявузгалі спакон,
Не бачачы, як гібель падступае…
Калі ж на чалавека сходзіць скон,
Спачатку ў яго мову адбірае!..
Так і народ бязмоўны…
Ён сканае!
Бо мова - гэта вопратка душы,
Гісторыя яе вякамі ткала,
Калі пагоніч меч чужы крышыў,
Калі да помсты
Кроў ахвяр гукала,
Калі ад горкасці займала дых,
Калі ў руках мазолістых, худых
Пад плугам родная зямля спявала!..
Ды хіба мала ў нас мясцін святых,
Дзе наша людства з моваю ўтрывала!
Вось тыя ніткі -
З іх уток, аснова,
З іх вытканы дзівосы роднай мовы,
Адзенне непаўторнае душы!
Ёй без адзення -
Суджана прадонне…
Бяда, калі душа - не ў сваім Доме!
Яна - ці вяне ў нейкай сумнай стоме,
Як ліст, што нехта ўздумаў засушыць,
Ці ўжо сама раздвойваецца хіжа
І іншых на свой шнур,
Як лісце, ніжа…
Патрохі вучыцца сваіх душыць!
Спраўляе перамогу ці хаўтуры?
А мова - маці роднае культуры,
Літаратуры, песні - ад калыскі
Яна ў душы гадуе знакі, рыскі,
Каб годнасць утрываліць,
Каб віхуры
Не кінулі на злом, у чорны роў…

**НІГІЛІСТ:**
Ды хіба мала песень у сяброў?
Спявай, скачы,
Выкручвай фугі-шугі,
Чытай, натхняйся, не пужайся бур,
Бяры з суседніх скарбаў для паслугі,
Для ўласнае душы -
З чужых культур!
І збедненым не будзеш, будзеш жыць,
Служыць, як іншыя,
працоўным масам…
Жаваць і хлеб,
І нават булку з маслам!..

**БАГУШЭВІЧ:**
Бязродныя, абкрадзеныя часам!
Вам і няўцям,
Што ўдосталь не здабыць
Ні хлеба, ні да хлеба - там, дзе ніць
Духоўнасці радзіннай перацята,
Дзе мова ў занішчэнні… Там дабра
Не дасць -
Зямля бескаранёвых сэрцаў…
Там спее на галовы - гром з ядра!
Там узбуяе хутка марнатраўства,
Пазбавіцца зямля Гаспадара!..
Патрэбна да пары прыстасаванцтва.
Час не дазволіць вам раскашаваць,
А возьмецца
вас першых крыжаваць!..
Я прадракаю - беды перажыць,
Трываліць першародных высновы,
Душы сваёй адзенне -
Роднасць мовы,
Цудоўнай беларускай нашай мовы
Не пакідай, мой край,
Калі ты хочаш жыць!

*Мікола АРОЧКА.*

*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі* № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
*Адрас рэдакцыі:*
231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by



http://naszaslowa.by/ http://pawet.net/
http://kamunikat.org/ http://tbm-mova.by/
http://nashaslova.mns.by/



Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Выдавец: Установа інфармацыі "Выдавецкі дом ТБМ".
Газета падпісана да друку 24.04.2017 г. у 17.00. Замова № 683.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 1500 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 1,24 руб., 3 мес.- 3,72 руб.
*Кошт у розніцу:* па дамоўленасці.